ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ВЫДАЕЦЦА З 1932 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 11 (2642) • Пятніца, 16 сакавіка 1973 года • Цана 8 кап.

## ДАРАГІЯ РЭЛІКВІІ ПАРТЫІ



*У залах музея...*

Фота Ул. КРУКА.

РОЎНА ТРЫ ЧВЭРЦІ стагоддзя таму, у сакавіцкія дні 1898 года, на зарэчнай ускраіне Мінска, у маленькім драўляным доміку ў засені дрэў, адбылася падзея, што стала знамянальнай для ўсяго сусветнага рабочага руху. Тут, на кватэры чыгуначніка сацыял-дэмакрата П. В. Румянцава, сабраўся І з'езд Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, які абвясціў аб стварэнні партыі, абраў Цэнтральны Камітэт, выпрацаваў прынцыпы партыйнага будаўніцтва.

Аб тым, што ў Мінску захаваўся дом, дзе праходзіў І з'езд РСДРП, я ўпершыню даведаўся яшчэ ў 1920 годзе, калі быў слухачом франтавых палітычных курсаў 15-й арміі. Помню, расказалі нам пра гэта на лекцыі і тады падумалася: буду ў Мінску, першае, што зраблю, — наведаю домік з'езда.

Трапіў я сюды толькі ў 1928 годзе. У доме Румянцава быў ужо музей І з'езда РСДРП, які ў тую пару адзначаў сваё пяцігоддзе. Памятаю, з якім хваляваннем я пераступіў парог доміка! З якім трапяткім узрушэннем разглядаў сціплую мэблю, фатаграфіі, дакументы.

Зноў я апынуўся ў Мінску ў 1944 годзе, у дзень вызвалення яго ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Праязджаючы па горадзе, на імгненне прыпыніў машыну на беразе Свіслачы, у тым месцы, дзе да вайны быў дом-музей, а цяпер дымілася папялішча.

І вось у 1958 годзе я прыехаў у Мінск на пастаяннае жыхарства. Убачыў новы горад і новы Дом-музей І з'езда РСДРП. Яго нанава адбудавалі і рэканструявалі, але засталося адчуванне сапраўднасці і натуральнасці, застаўся той дух, які панаваў у доме раней. І мяне, ужо немаладога чалавека, ахапіла радасць, якая бывае ў юнацтве!

Гэтымі днямі я прачытаў у газетах, што за заслугі ў прапагандзе гісторыі Камуністычнай партыі і ў сувязі з 50-годдзем з дня адкрыцця, Дом-музей І з'езда РСДРП узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

Як ветэран партыі, я ад усёй душы ўдзячны нашаму ўраду, работнікам музея за тое, што яны зберагаюць дарагія рэліквіі партыі.

Музей І з'езда РСДРП — месца, дарагое для кожнага камуніста, працоўных усёй зямлі, нашай моладзі, якая выхоўваецца на рэвалюцыйных традыцыях вернай ленінскім ідэям.

**Мікалай АЛЯКСЕЕЎ,**
член КПСС з 1920 года,
старшыня камісіі па ваенна-мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў БССР.

## ПЯЦІГОДКА. ГОД ТРЭЦІ, РАШАЮЧЫ

# РАБОЧЫЯ

*З КАРЭСПАНДЭНЦКАГА БЛАКНОТА*



Тут нараджаюцца новыя станкі...

**В**ІЦЕБСКІЯ журналісты папярэдзілі: дырэктар завода заточных станкоў Барыс Міхайлавіч Піваваронак — скупы на слова. Асабліва, калі размова заходзіць пра яго асабіста. Нават злаваць пачынае...

Так яно, бадай, і здарылася.

...З-за стала ўстаў баскетбольнага росту чарнявы мужчына недзе за сорак, у цёмным гарнітуры і белай сарочцы, і не сказаў — прагудзеў:

— Піваваронак.

Сеў, падпёр шчаку далоняй:

— Слухаю.

Расказваю, што ў гаркоме партыі рэкамендавалі яго ў героі нарыса.

Адкінуўся на спінку крэсла:

— Я катэгарычна супраць.

— Чаму?

— Пра завод, пра рабочых, калі ласка...

Пачаў угаворваць. Піваваронак сцямнеў тварам, непрыязна зірнуў у вочы, сказаў, як адсек.

— Не будзем больш пра гэта гаварыць.

— Ну, тады хоць фотаздымак дазвольце зрабіць, — нясмела прапанаваў я.

— У нас ёсць каго фатаграфаваць акрамя дырэктара. Вось, зірніце, — выняў у шуфляды паперу з прозвішчамі. — Лепшыя рабочыя. Героі, можна сказаць...

Падняў трубку, папрасіў некага зайсці ў кабінет. І калі той прыйшоў, кіўнуў на мяне:

— Пакажыце таварышу завод, пазнаёмце з лепшымі рабочымі.

Зноў падняўся з-за стала — вялізны, мажны, усміхнуўся вачыма, падаў руку:

— Жадаю поспеху.

Так сумна закончылася маё знаёмства з Барысам Міхайлавічам Піваваронкам. Калі паспрабаваў пацікавіцца пра яго ў гіда, той у адказ заплюшчыў вочы і ледзь не мінуту цягнуў:

— О-о-о...

Гэта павінна было сведчыць, як я зразумеў, пра вышэйшую ступень захаплення.

— Ну, а канкрэтна, канкрэтна, які ён, ваш дырэктар?

Чалавек з жалем зірнуў на мяне.

— Піваваронак — гэта чалавек, які ўсё бачыць і ўсё ведае. Зразумелі? Скажам, заходзіць да яго начальнік цэха. Не паспеў пераступіць парог, а дырэктар яму адразу — што гэта, маўляў, робіцца ў цябе на тым і тым участку? Начальнік толькі вачыма лыпае, бо пра той агрэх ён сам толькі-толькі даведаўся.

— Дык што ён, свентым духам пра ўсё дазнаецца? — не сцярпеў я.

— Чаму свентым? — пакрыўдзіўся спадарожнік. — Добры гаспадар, ён кожны закуток, кожную шчылінку ў сваёй хаце ведае...

Пасля ўжо літаральна па зярнятках сабраў я аб Піваваронку тое-сёе. Аказалася, пакуль заняў дырэктарскае крэсла, пастаяў Барыс Міхайлавіч на многіх прыступках. Пачынаў на віцебскім заводзе «Камінтэрн» простым рабочым, потым стаў брыгадзірам, майстрам, начальнікам цэха. Скончыў завочна Беларускі політэхнічны інстытут...

Перад прызначэннем сюды працаваў Піваваронак на тым жа заводзе «Камінтэрн» галоўным інжынерам. Расказваюць, калі даведаліся камінтэрнаўцы, што забіраюць ад іх Барыса Міхайлавіча, паслалі дэлегацыю ў адпаведную інстанцыю, каб пакінулі галоўнага...

Што і казаць, ніколі нельга меркаваць аб чалавеку па першым уражанні...

**С**ЁННЯ віцебскі завод заточных станкоў імя XXII з'езда КПСС — адно з перадавых прадпрыемстваў рэспублікі. У гонар 50-годдзя ўтварэння СССР ён быў узнагароджаны Юбілейнай граматай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР. Летась калектыў завода чатыры кварталы запар займаў класныя месцы ва ўсесаюзным сацыялістычным спаборніцтве сярод прадпрыемстваў станкаінструментальнай прамысловасці. Завод заваяваў перамогу і ва ўсесаюзным аглядзе па культуры вытворчасці.

Галоўныя козыры завода — новая тэхніка, якую тут укараняюць аператыўна і эфектыўна, і АСКВ — аўтаматызаваная сістэма кіравання вытворчасцю, пакуль што амаль адзіная ў Віцебску. АСКВ — дзецішча Піваваронка. Не ўсё, вядома, проста робіцца, давялося дырэктару нямала паперы перавесці, нямала паездзіць, не аднаго начальніка пераканаць, пакуль з'явілася тут электронна-вылічальная машына «Мінск-22». Ну, а сёння на заводзе вы ўбачыце і шыльдачку, якая гаворыць, што тут размяшчаецца Віцебскае аддзяленне цэнтральнага навукова-даследчага інстытута тэхнікі кіравання.

Пра ўсё гэта я раскажу падрабязна крыху пазней, а пакуль некалькі слоў аб гісторыі завода, або, калі больш дакладна, яго радаслоўнай. А радаслоўная прадпрыемства пачыналася ў горадзе Кліне, дзе ў 1900 годзе адкрыўся чыгуналіцейны заводзік, што выпускаў пячное ліццё ды гіры для вагаў. У семнаццатым годзе заводзік, натуральна, быў экспрапрыяваны і неўзабаве пачаў вырабляць ваганеткі і іншае абсталяванне для шахт.

Міхаіл Фёдаравіч Галалобаў, намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР.

На цяперашнюю прадукцыю — заточныя станкі — завод перайшоў у горадзе Беларэцку, куды быў эвакуіраваны ў пачатку Айчыннай вайны. Дакументы тых далёкіх часоў данеслі да нас і такі факт — ужо ў 1941 годзе завод выпусціў першыя 120 станкоў, якія былі выкарыстаны ў абароннай прамысловасці.

У 1944 годзе завод змяніў сваю другую прапіску на канчатковую — віцебскую. Тут на базе майстэрань палітэхнікума пачаў ствараццa Віцебскі завод заточных станкоў, якому ў 1962 годзе было прысвоена пачэснае званне імя XXII з'езда КПСС.

Цяпер трошкі лічбаў. У 1945 годзе завод выпусціў 186 станкоў. У 1950 — 956. Зараз гадавы выпуск складае 4 тысячы станкоў. Прадукцыя завода экспартуецца ледзь не ў 60 краін свету, у тым ліку, у Францыю, Англію, Італію, ФРГ і г. д.

Трошкі вышэй я казаў пра віцебскую прапіску завода. Але тут патрабуецца пэўнае ўдакладненне. Справа ў тым, што апошнім часам прадпрыемства зноў... змяніла прапіску, праўда, у самім горадзе.

У цэнтры Віцебска, на плошчы Свабоды, садзіцеся на трамвай, які ідзе па вуліцы Фрунзе. Апошні прыпынак на гэтай лініі — у двух кроках ад вялізнага светлага корпуса. Гэта і ёсць, калі можна так сказаць, новы стары завод заточных станкоў. Ён яшчэ будуецца — узводзяцца новыя цэхі, адміністрацыйна-бытавыя карпусы, у прыватнасці, дзевяціпавярховы інтэрнат для рабочых.

**Т**РЭЦІ механічны цэх. На ўсю даўжыню мала не паўкіламетровага памяшкання радамі стаяць станкі. На іх, фігуральна кажучы, робяць новыя станкі. Розных памераў, рознай канфігурацыі і складанасці. Завод выпускае спецыяльныя заточныя і шліфавальныя станкі для горнага, медыцынскага, гаспадарчага і спецыяльнага металарэзнага інструмента, станкі павышанай дакладнасці для заточкі зубарэзных галовак, станкі-аўтаматы для масавай заточкі і ператочкі круглых каленных плашак, дзесяткі іншых найменаванняў — усяго не пералічыш.

Ля станкоў завіхаюцца рабочыя ў камбінезонах і чорных берэтах (дарэчы, у заўкоме мне расказалі, што кіраўніцтва завода звярнулася ў інстытут праектавання рабочай вопраткі з просьбай распрацаваць новыя мадэлі для розных спецыяльнасцей паасобку — токараў, фрэзероўшчыкаў, зборшчыкаў і г. д.). Засяроджаныя твары, упэўненыя рухі. Якія яны, гэтыя людзі, чым жывуць, пра што мараць? Ну, хаця б вось гэты, немалады ўжо, што, прыжмурыўшы вока, абмярае знятае са станка колца. Або гэты — тонкі, чарнявы хлопец, што нервова ходзіць вакол станка, здаецца, нешта не ладзіцца ў яго?

З усімі, вядома, не пагаворыш. Раскажу толькі пра некалькі сустрэч.

...У той дзень Мікалай Ціханавіч Аўтушкоў доўга ў сталоўцы не бавіўся. Разлічыў так, каб да канца абе-

ПАДЗЕІ, ФАКТЫ, НАВІНЫ

## КЛУБЫ І БІБЛІЯТЭКІ—ВЫТВОРЧАСЦІ

*У ПРЭЗІДЫУМЕ БЕЛАРУСКАГА САВЕТА ПРАФСАЮЗАЎ*

Каштоўную ініцыятыву праявілі работнікі ўстаноў культуры прафсаюзаў Масквы, Ленінграда і Данецкай вобласці. Яны вырашылі **замацаваць і памножыць багаты вопыт, набыты ў перыяд падрыхтоўкі да 50-годдзя ўтварэння СССР, выкарыстаць яго для аказання дапамогі вытворчым калектывам, кожнаму працаўніку ў выкананні планаў і сацыялістычных абавязацельстваў, у паспяховым ажыццяўленні рашэнняў XXIV з'езда КПСС.** Гэтую ініцыятыву, адобраную ВЦСПС, горача падтрымалі работнікі культурна-асветных устаноў прафсаюзаў рэспублікі.

Два калектывы — дома культуры Мазырскага завода меліярацыйных машын і бібліятэкі заўкома прафсаюза Мінскага дзяржаўнага падшыпнікавага завода — распрацавалі і прынялі канкрэтныя абавязацельствы па паляпшэнню выхаваўчай і культурна-масавай работы ў 1973 годзе, рашаючым годзе дзевятай пяцігодкі.

Мазырскія культработнікі і іх актыў бачаць галоўную мэту сваёй дзейнасці ў выкарыстанні ўсіх форм і сродкаў масава-палітычнай і культурна-выхаваўчай работы для мабілізацыі працоўнага калектыву на выкананне вытворчых заданняў, больш поўнае выкарыстанне рэзерваў росту прадукцыйнасці працы, паскарэнне навукова-тэхнічнага прагрэсу, выкананне прынятых сацыялістычных абавязацельстваў, умацаванне працоўнай дысцыпліны.

У сваіх сацыялістычных абавязацельствах мазыране прадугледжваюць таксама расшырэнне шэфскай дапамогі працаўнікам калгаса «Праўда».

Работнікі і актывісты бібліятэкі заўкома прафсаюза Мінскага падшыпнікавага завода, горача падтрымаўшы ініцыятыву сваіх калег з Масквы, Ленінграда і Данецкай вобласці, таксама ўзялі на сябе канкрэтныя абавязацельствы, накіраваныя на значнае паляпшэнне масавай работы ў працоўным калектыве. Зрабіць бібліятэку актыўным памочнікам спаборнічаючых, — такі дэвіз яе работнікаў і актывістаў. Для яго ажыццяўлення распрацаваны мерапрыемствы, якія садзейнічаюць павышэнню эканамічнай і тэхнічнай адукацыі рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў і служачых, паляпшэнню абслугоўвання кнігай вытворчых брыгад, участкаў, цэхаў. Вырашана таксама актывізаваць работу ў падшэфных бібліятэках саўгасаў імя У. І. Леніна, «Савецкая Беларусь» Лагойскага раёна.

Прэзідыум Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў адобрыў сацыялістычныя абавязацельствы работнікаў і актыву дома культуры Мазырскага завода меліярацыйных машын і бібліятэкі заўкома прафсаюза Мінскага дзяржаўнага падшыпнікавага завода.

**БЕЛТА.**

## СУЧАСНАСЦЬ І ПАЭЗІЯ

### ПЛЕНУМ ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

Учора адбыўся чарговы пленум праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, прысвечаны надзённым праблемам нашай паэзіі. Уступным словам яго адкрыў старшыня праўлення СП БССР, народны паэт Беларусі Максім Танк. З дакладам «Сучаснасць і паэзія» выступіў намеснік старшыні праўлення СП БССР А. Грачанікаў.

Для ўдзелу ў рабоце пленума прыехалі госці з Масквы — старшыня творчага аб'яднання паэтаў Маскоўскай пісьменніцкай арганізацыі Ул. Сакалоў, намеснік сакратара праўлення СП СССР М. Гарбачоў, адказны сакратар Савета па беларускай літаратуры СП СССР В. Шчадрына.

У рабоце пленума прынялі ўдзел сакратар ЦК КПБ А. Кузьмін, загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. Марцалеў.

Справаздача будзе апублікавана.

## РЭПАРЦЁРСКІМІ СЦЕЖКАМІ

**Журналісцкія шляхі-дарогі... У Івана Новікава яны — даўжынёй больш, чым у 30 гадоў, у Веры Палтаран — некалькі карацейшыя. Але акцёры, музыканты, мастакі — усе, хто прыйшоў у Рэспубліканскі дом работнікаў мастацтваў на сустрэчу з імі, з вялікай цікавасцю слухалі абодвух.**

**Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Я. Коласа і Дзяржаўнай прэміі БССР імя Лепяшынскага, пісьменнік і журналіст І. Новікаў расказаў аб сваёй галоўнай тэме — Мінскім падполлі. Пачатая шмат гадоў таму назад серыяй карэспандэнцый і нарысаў у «Правде», яна перарасла ў кнігі «Руіны страляюць ва ўпор», «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску», «Тварам да небяспекі». І цяпер Іван Рыгоравіч працягвае карпатліва вывучаць дакументы, якія расказваюць аб вялікім народным подзвігу, адкрываць імёны невядомых да гэтага часу герояў.**

**Лаўрэат прэміі Саюза журналістаў СССР і Дзяржаўнай прэміі БССР імя Лепяшынскага, аўтар кнігі «Ключы ад Сезама» Вера Сямёнаўна Палтаран вынесла на суд прысутных апавяданне «Гарачая капля», на якое жыва адклікнулася чулая аўдыторыя. Журналістка падзялілася сваімі планамі, роздумам.**

**Шмат цяжкіх рэпарцёрскіх дарог, але не «з «лейкай» і блакнотам», а з кінакамерай прайшоў адзін з вядучых беларускіх кінадакументалістаў, аператар і рэжысёр творчага аб'яднання «Летапіс» Іосіф Навумавіч Вейняровіч. Лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і БССР, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі паказаў удзельнікам сустрэчы сваю апошнюю работу — дакументальны поўнаметражны фільм «Балада аб мужнасці і любві».**

**Ад імя работнікаў мастацтваў заслужаная артыстка БССР Таццяна Аляксеева горача падзякавала гасцям за цікавы вечар, які так і называўся — «Рэпарцёрскімі сцежкамі».**

БЕЛТА.

# ЛЮДЗІ

**М. ЗАМСКІ,**

спец. кар. «Літаратуры і мастацтва»

дзеннага перапынку яшчэ паспець сабраць партыйныя ўзносы.

Узносы прымаў ля свайго расточнага станка. Абкружаны рабочымі, старанна запаўняў ведамасць, доўга хукаў на пячатку...

Калі пайшлі ад Аўтушкова людзі, падышоў пазнаёміцца з ім.

— З газеты? — з дакорам зірнуў на майго гіда, маўляў, ведаю, ты прывёў. Уздыхнуў: — Трэба, дык трэба.

Аўтушкоў — ветэран завода — працуе тут 18 гадоў. Спецыяльнасць? Токар-расточнік.

Хлопцы з суседніх станкоў, што слухаюць нашу размову, умешваюцца:

— Мікола, ты ж пра ўсе спецыяльнасці свае раскажы.

Мікола Ціханавіч трошкі чырванее.

— Якія — усе? Ну, слесарам пачынаў...

— А шліфоўшчык, а свярлоўшчык, — загінае пальцы адзін з рабочых.

У механічным цэху, дзе працуе Аўтушкоў, называюць яго часта інжынерам без дыплома. Чытае Мікалай Ціханавіч чарцяжы, як сталы музыкант з ліста ноты. Хаця прыйшло гэта не адразу. Паступіў на завод Аўтушкоў з шасцю класамі. Спачатку, здавалася, хапала для тых старых станкоў. Але што ні год, то новае абсталяванне ў цэху, самыя што ні ёсць складаныя станкі, нават з праграмным кіраваннем. Змікіціў хлопец, што з яго шасцю класамі неўзабаве хіба толькі смецце не прыйдзецца месці. І хоць цяжка было — сям'я, дзеці, пайшоў вучыцца, скончыў вячэрнюю школу.

Працуе Мікола Ціханавіч на самай адказнай, як ён гаворыць, фінішнай аперацыі. Пасля яго дэталі ідуць ужо на зборку. Самы малы недамер, адхіленне на мікрон, і праца многіх людзей, у чыіх руках пабыла дэталь, пойдзе на глум.

— Уцямілі? — усміхаецца Аўтушкоў.

— Міколу АТК не правярае, — устаўляе нехта, — у яго ўласнае кляймо якасці.

І яшчэ некалькі рысак да партрэта Аўтушкова. Ён сакратар цэхавай партыйнай арганізацыі. Ён адзін з лепшых рацыяналізатараў завода. Ён — дружыннік...

Убачыў у руках фотаапарат.

— Мяне? Не, адзін фатаграфавацца не буду. Вось з хлопцамі, калі ласка. — Крычыць: — Валера і Сярожа, хадземце сюды! — І мне: — Не сумнявайцеся, выдатныя рабочыя. Калі я рэкамендую — гэта жалезна.

Валерый Ціханаў і Сяргей Дзіклаў — хлопцы маладыя, пару гадоў назад прыйшлі сюды пасля дзесяцігодкі. Абодвух адразу ўзяў пад сваё крылца Аўтушкоў.

— Мальцы, што трэба, — хваліць ён, — будуць з іх добрыя рабочыя. Дарэчы, Валера займаецца на падрыхтоўчым аддзяленні станкабудаўнічага тэхнікума.

Так траіх разам я і сфатаграфаваў...

Гартаю блакнот. Галалобаў Міхаіл Фёдаравіч. Пазнаёміўся з ім у кавальска-нарыхтоўчым цэху. Спачатку мясцовае начальства ганарліва паказвала мне навінку — унікальны механізаваны склад для дэталей. Такога, паводле іх слоў, яшчэ нідзе няма. Усё



Працуе Валянціна Барышнікава аператарам ЭВМ...

зроблена па апошнім слове тэхнікі. Складаны механізм у момант адшуквае і вымае з ячэйкі любую дэталь, а іх тут сотні.

— Новае ў нас на кожным кроку, — тлумачыць мой гід. — Узяць хаця б зварку ў асяроддзі вуглекіслага газу. Хто першым засвоіў у Віцебску? Наш завод. А першым на заводзе — Міхаіл Фёдаравіч Галалобаў. Дарэчы, вунь ён.

Пайшлі на маланку электразваркі. У закутку завіхаліся двое рабочых. Раз за разам усё навокал залівала блакітнае, ні на што не падобнае святло.

Адзін з рабочых падняў забрала, белазуба ўсміхнуўся:

— Вочы, вочы беражыце, спатрэбяцца яшчэ.

Так мы пазнаёміліся з Галалобавым.

— Мабыць, вас новы метад зваркі цікавіць? Госці пра гэта звычайна пытаюцца.

Я сцепануў плячыма.

— Зрабіце ласку, калі, вядома, што-небудзь зразумею.

— Усё вельмі проста. Раней варылі пры дапамозе вось такога прута,— Галалобаў падняў з зямлі тоўсты, у два пальцы, металічны прэнт. — Па-першае, шмат металу ішло ў глум, па-другое, рабочым потым даводзілася траціць час на зачыстку. А цяпер варым вось такім танюсенькім дроцікам. Прадукцыйнасць павысілася працэнтаў на пятнаццаць, метал эканомім, ды і шво, глядзіце, якое акуратнае.

На заводзе Міхаіл Фёдаравіч шаснаццаць гадкоў ужо. І ўсё электразваршчыкам. Тут, на заводзе, скончыў вячэрнюю дзесяцігодку.

Неяк прачытаў у газеце пра зварку ў асяроддзі вуглекіслага газу, якая абяцала вялікі эфект. Загарэўся, пайшоў да начальства, каб паслала на курсы ў Мінск (недзе пачуў, што ёсць такія курсы).

Ад яго, Галалобава, новы метад пашыраўся, можна сказаць, на ўсе прадпрыемствы горада...

Міхаіл Фёдаравіч — дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі, намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета.

Цікаўлюся гэтым бокам яго дзейнасці. Уздыхнуў:

— Хапае клопату. Ды клопат прыемны, асабліва, калі ўдаецца дапамагчы чалавеку.

— Шмат людзей звяртаецца?

— Хапае. Прымаю два разы ў месяц. Кожны прыходзіць са сваім. Таму кватэру. У таго з работай не ладзіцца. Вунь нядаўна дапамог атрымаць добрую кватэру нашаму рабочаму Валеру Ільіну. А то прыйшлі неяк з дзіцячага садзіка трэста № 9. Будаўнікі іх падвялі, з недаробкамі садзік здалі. Давялося ўмяшацца. Зрабілі...

Пасля спытаў у заўкоме пра Галалобава.

— А што тут гаварыць — дзяржаўны чалавек...

Сказана было з вялікай павагай.

КАЛІ ЗНАЁМІЎСЯ з інфармацыйна-вылічальным цэнтрам завода, прыгадалася тое месца ў пастанове апошняга Пленума ЦК КПБ, дзе гаварылася, што на некаторых прадпрыемствах набываюць дарагія электравылічальныя машыны, аддаючы даніну модзе, і толькі... Успомнілася таму, што ўвачавідкі ўбачыў, як ва ўмелых руках гэтая тэхніка дапамагае ўдасканальваць вытворчасць.

— Мяркуйце самі, — гаварыў мне Ігар Паўлавіч Дзямідаў, начальнік ІВЦ, — вытворчасць у нас дробнасерыйная, шматнаменклатурная. Завод выпускае 40—50 мадэлей станкоў. Кожны станок мае, у сярэднім, 800 дэталей. Кожная дэталь патрабуе 12—15 аперацый. Адным словам, у вытворчасці праводзіцца аднагасова звыш 250 тысяч дэтале-аперацый. Паспрабуйце ўсё гэта падлічыць, ва ўсім гэтым з'арыентавацца без вылічальнай тэхнікі. А калі не мець своечасовай, поўнай інфармацыі аб ходзе вытворчасці, дык і кіраваць ёю вельмі цяжка.

Наш цэнтр пакуль што рашае 8—10 задач. Скажам, такіх, як разлік тэхнічнай падрыхтоўкі вытворчасці, тэхніка-эканамічнае планаванне, аператыўнае кіраванне асноўнай вытворчасцю і г. д.

Магу прывесці маленькі прыклад. Колькі гадоў таму спатрэбілася зрабіць разлік каэфіцыенту загрузкі абсталявання на заводскіх цэхах. Засадзілі за гэтую работу ўсіх эканамістаў, бухгалтараў. Карысталіся яны настольнымі лічыльнымі машынамі. Спатрэбілася на выкананне гэтай задачы паўтара тыдня. Такі ж разлік нядаўна быў праведзены на ЭВМ за два з паловай дні...

Неўзабаве на заводзе будзе арганізаваны куставы вылічальны цэнтр, які будзе абслугоўваць таксама заводы імя Кірава і «Камінтэрн».

І апошняе знаёмства. Валя Барышнікава, аператар ЭВМ. Зусім яшчэ дзяўчо, толькі пасля школы. Разам з маім гідам з павагай глядзім, як упэўнена яна гаспадарыць за вялікім пультам, дзе то запальваюцца, то згасаюць рознакаляровыя лямпачкі. Чамусьці раптам уявілася, як прынесла яна дахаты сваю першую зарплату. Зарплату рабочага чалавека...

— Хлопцы што трэба, — гаворыць пра Сяргея Дзіклава і Валеру Ціханава Мікалай Ціханавіч Аўтушкоў (першы справа).

# ПЕСНІ НАД КРУЧАМІ

*З ГОМЕЛЬСКАГА АБЛАСНОГА СЕМІНАРА ТВОРЧАЙ МОЛАДЗІ*

У маляўнічае месца над кручамі Сожа, у дом адпачынку будтрэста № 10 «Залатыя пяскі» сабраліся паэты-пачаткоўцы, маладыя мастакі, самадзейныя кампазітары і артысты, фота- і кінааматары, камсамольскія актывісты і журналісты, аспіранты навучальных устаноў Гомельшчыны.

На працягу трох дзён удзельнікі слухалі лекцыі і даклады, адбываліся цікавыя гутаркі і сустрэчы.

Больш паўсотні фотаздымкаў было прадстаўлена на выстаўцы. Найбольш цікавыя сярод іх работы фотааматараў А. Карніенкі, Л. Крот і іншых.

Кераміка і чаканка, скульптура і жывапіс экспанаваліся ў другім пакоі. Т. Кіршына з Мазыра — аўтар малады, але яе творы былі прадстаўлены і на міжнароднай выстаўцы ў ГДР. Свае новыя работы яна прапанавала ўдзельнікам семінара. Добра быў прадстаўлены і жывапіс. Карціны В. Бамбіза са Светлагорска, нацюрморты В. Дзенісенкі і Г. Говара светлыя па-свайму выкананню, у іх выразна адчуваецца почырк маладых аўтараў.

Цікава прайшоў прагляд аматарскіх фільмаў. Работа А. Малярэнкі «Бярозавы сок» спадабалася ўсім. Адзначаны таксама фільмы «Залатыя пяскі» Я. Чубанава, «Так мы жывём і вучымся» А. Яраслаўцава і А. Малярэнкі.

«Вечар знаёмстваў» сабраў вялікую аўдыторыю. Выступалі самадзейныя кампазітары, выканаўцы, журналісты.

...Апошні калектыўны здымак, развітальныя сігналы аўтобусаў. Крыху сумнавата, што так хутка праляцелі гэтыя тры дні напружанай, творчай вучобы.

**І. МЯДЗВЕДЗЕЎ,**
**удзельнік семінара.**

# ПЕРАМОЖЦЫ НАЗВАНЫ

*Абвешчаны вынікі рэспубліканскага тура Усесаюзнага агляду творчай моладзі тэатраў.*

*Дыпломы першай ступені прысуджаны салістам Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета БССР Н. Паўлавай і А. Руткоўскаму, рэжысёрам Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы Б. Луцэнку і В. Раеўскаму.*

*Дыпломы другой ступені атрымалі артысты балета Л. Бржазоўская і Ю. Траян, салістка Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР Н. Белавусава, артыст А. Мазлоўскі і мастак Б. Герлаван (тэатр імя Я. Купалы), артысты І. Мацкевіч (Брэст), В. Шушкевіч (Бабруйск), В. Клебановіч (Рускі тэатр БССР імя М. Горкага).*

*Артысты Л. Папова і В. Мазур (тэатр музычнай камедыі), С. Акружная (Віцебск), Ул. Філатаў (Бабруйск), Л. Волкава (Гродна), П. Вараб'ей (Гомель), Л. Улашчанка (Рэспубліканскі тэатр юнага гледача), В. Грамовіч (Дзяржаўны тэатр лялек БССР), рэжысёр Ул. Караткевіч (Магілёў) і саліст оперы М. Зданевіч атрымалі дыпломы трэцяй ступені.*

*Памятныя прызы за лепшую арганізацыю работы з творчай моладдзю прысуджаны абласным драматычным тэатрам ў Гомелі і Гродна.*

*Артысты Н. Паўлава, А. Руткоўскі, Л. Бржазоўская, Ю. Траян, В. Клебановіч і А. Мазлоўскі выступяць на заключным туры Усесаюзнага агляду.*

# Р. ШЫРМА — КАВАЛЕР БАЛГАРСКАГА ОРДЭНА

Ваенны аташэ пасольства НРБ у СССР генерал-маёр Балгарскай народнай арміі П. А. Каракачанаў уручыў у Мінску старшыні праўлення Саюза кампазітараў БССР, народнаму артысту СССР Р. Р. Шырму ордэн «Кірылы і Мяфодзія» другой ступені. Гэтым ордэнам урад НРБ узнагародзіў Рыгора Раманавіча за актыўны ўдзел у справе развіцця балгарскай культуры і ўмацавання дружбы паміж савецкім і балгарскім народамі.

# НАМ ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ

## ...З МАГІЛЁВА

**У гарадской выставачнай зале адкрыта экспазіцыя твораў беларускіх мастакоў і скульптараў. На ёй прадстаўлена каля 200 работ. Сярод іх палотны народных мастакоў Беларусі У. Ахрэмчыка, В. Цвірко, заслужаных дзеячоў мастацтваў Беларусі Н. Воранава і В. Грамыкі. карціны М. Данцыга і С. Каткова.**

□

«Магілёў і магіляўчане» — так названа выстаўка фотаздымкаў, якая адкрылася ў гарадскім доме культуры. 145 работ трыццаці трох прафесіяналаў і фотааматараў прысвечана працы металургаў, хімікаў, машынабудаўнікоў горада на Дняпры, а таксама культурнаму жыццю, спорту і адпачынку магіляўчан. Поспехам карыстаюцца здымкі М. Радзіёнава «Тэатр едзе ў сяло», А. Борчыка «Партрэт паэта А. Пысіна», Л. Шастакова «На адпачынку» і іншыя.

□

**Абласны дом мастацкай самадзейнасці правёў пяцідзённы семінар самадзейных майстроў разьбы па дрэву і мастацкай апрацоўцы металу. У ім удзельнічалі 23 чалавекі—з Магілёва, Бабруйска, Крычава, Касцюковіч.**

**На семінары адбылося абмеркаванне новых работ разьбяроў—галоўнага ўрача Касцюковіцкай участковай бальніцы В. Ульянава і рабочага з Бабруйска Л. Окуня.**

кветак, дрэў, у спевах птушак і т. д. Вось гэтае дэгустатарства ў Пташнікава ў рамане набыло характар мастацкага адкрыцця. Ніводзін пісьменнік ні да яго, ні пасля яго не мог так пераканаўча прадэманстраваць уменне разбірацца ў вясковых пахах. І гэта ўменне Пташнікаў плённа выкарыстоўвае ў рамане як сродак узмацнення мастацкага ўздзеяння пейзажу на чалавека.

У трох выпадках пісьменнік дазволіў сабе прыпаднесці чытачам вялікія букеты пахаў, усё роўна, як выхвальваючыся (стар. 21, 101, 212). Падам самы багаты: «Пахла ячным іржышчам ад Лазы, ад дарогі; сухім лёнам — кастрой, што старой леташняй жытняй саломай; пахнуў перастаялы дурнап'ян — пырскаў са снапоў дробным чорным гарошкам; пахлі запыленыя дробныя васількі, шорсткі ржавы пырнік; зачапі нагой — ідзе руды пыл; пахла дзяцелінай, мятліцай, зялёным конскім гугалем — елкай, свірэпкай — спелай, у струках; грыбамі — дробнымі, дзікімі — параслі ў барознах пад лёнам; пахла з-за дарогі з-пад лесу жоўтым лубінам, як мёдам, і Андрэй ужо нічога не мог адлучыць: здавалася, перамяшалася ўсё на свеце і пахне едкім пылам нават белае каменне на полі, і ў яго, высака на валакушах, круціцца толькі ў галаве і горка ў роце».

І ўсё ж пахаў у рамане занадта многа. Да іх прынюхваюцца не толькі Вялічка, але і Унук і некаторыя іншыя. Добрую трэцюю частку іх з карысцю можна было апусціць. Нельга забываць, што ўтрыраванне прыёма прыводзіць да яго парадыйнага ўспрымання. Увогуле ў рамане пейзажу занадта многа, а сам па сабе ён няздольны замяніць аналіз душэўнага жыцця.

Заадно скажу, што надакучаюць таксама шматлікія паўтарэнні выразаў «усё роўна як», «нямаведама куды», «падумаў ён». Замест «усё роўна як» можна пісаць і проста «як». Замест «падумаў ён», паколькі аўтару, відаць, не хацелася засмечваць тэкст двукоссямі, можна было даваць чатыры-пяць варыянтаў накшталт: «уявілася яму», «паўстала перад ім», «прыгадалася, што» і да т. п.

І. Пташнікаў не належыць да пісьменнікаў, якія пішуць сярэднелітаратурнай мовай. Мова ў яго дакладная, каларытная, сакавітая. Яна вызначаецца выключным багаццем лексікі. Гэтае багацце звязана з дасканалым веданнем вясковай гаворкі, тэрміналогіі. Пісьменніку не трэба ламаць галаву, як завецца тая ці іншая рэч у хаце, на двары ці ў хляве, тут ён энцыклапедыст. Яно звязана і са здзіўляючай памятлівасцю на рэдкія, але добрыя словы, на трапныя ідыёмы, звязана і з адважным выкарыстаннем лагойскіх правінцыялізмаў. Яно звязана і з відушчай назіральнасцю, з увагай да мастацкай дэталі, з расчытваннем тых жа пахаў і гукаў, што дазваляе яму ў адпаведнасці са зваротамі народнай мовы рабіць шматлікія яркія ўпадабненні і параўнанні.

Такія словы і выразы, як «вехць», «аддуха», «праварына», «додніца», «лучыць», «адаробкі», «упобачкі», «дождж залёг на тыдзень», «прыгаркі ад бульбы», «драгаць у дзверы», «ставіць мост», «хлебястаў кулямёт», «закруцілася ў галаве», «вышмараваная падоска», «густая шчэць», «пляснівая салома», «тут прыкарэў», «рэдкая вадзіца», «злецілася вада», «праштабнаваныя фуфайкі», «абслізганы ў далонях вочап» і інш. могуць быць невялікай ілюстрацыяй удалага карыстання пісьменнікам лексікай і выразамі народнай мовы.

Не без таго, у асобных выпадках І. Пташнікаў перабірае меру, бо скажам, слова «дзеўчынёха», дапушчальнае ў мове герояў, не абавязкова даваць у аўтарскай мове. Да такіх слоў, як «шляхта», «разбалабошаная», «субожыўшыся», «абырыўшыся» і інш. напрашваюцца тлумачальныя зноскі.

Абмяжуемся гэтымі заўвагамі, тым болей, што іх рабіць лягчэй, чым пісаць раманы. Згадзімся на тым, што перад намі вельмі своеасаблівы, напісаны шчыра, цікавы, значны твор.

ступіў крытык Г. Колас. Ён расказаў пра пастаноўкі п'ес беларускіх драматургаў на сцэнах тэатраў братніх рэспублік, пра ўзаемаўзбагачэнне нацыянальных культур, нацыянальную і інтэрнацыянальную тэму ў тэатральным мастацтве.

У абмеркаванні даклада прынялі ўдзел А. Бачыла, А. Маўзон, М. Матукоўскі, А. Макаёнак, І. Шамякін.

Удзельнікі заслухалі справаздачу старшыні бюро секцыі А. Макаёнка аб рабоце за мінулы год. Ён расказаў, як беларускія драматургі ўдзельнічалі ў рэспубліканскім аглядзе драматургіі і тэатральнага мастацтва, прысвечаным 50-годдзю ўтварэння СССР, у абмеркаванні новых спектакляў, кансультавалі маладых аўтараў, сустракаліся з гледачамі.

Секцыя выбрала новы склад бюро. У яго ўвайшлі А. Вольскі, А. Дзялендзік, Г. Колас, А. Макаёнак, М. Матукоўскі, А. Маўзон, П. Макаль. Старшынёй бюро секцыі абраны А. Макаёнак, намеснікам — М. Матукоўскі, сакратаром — Г. Колас.

**ПРАЦЯГВАЕМ РАЗМОВУ АБ ЛІТАБ'ЯДНАННЯХ**

*Артыкул загадчыка аддзела культуры абласной газеты «Мінская праўда» Уладзіміра Кобрына «Таленты... Каму іх адкрываць?» быў змешчаны ў нашай газеце 25 студзеня 1973 года. Аўтар узняў некаторыя пытанні работы з пачаткоўцамі, выказаў слушныя заўвагі аб літаратурных аб'яднаннях.*

*Чытачы адгукнуліся на выступленне штотыднёвіка. У сваіх пісьмах яны дзеляцца думкамі адносна работы літаб'яднанняў, членамі якіх з'яўляюцца, выказваюць свае меркаванні і прапановы.*

*Сёння мы змяшчаем два водгукі. Адначасова звяртаемся да чытачоў з просьбай дасылаць свае пісьмы, дзяліцца ўласнымі меркаваннямі аб рабоце літаб'яднанняў.*

# НАСТАЎНІК, ВЫХАВАЙ ВУЧНЯ!..

Чароўны свет паэзіі ўражвае нас з маленства. І лепшыя з першых прачытаных апавяданняў таксама застаюцца ў памяці на шмат гадоў. А, пасталеўшы, шмат хто і сам імкнецца выкласці свае думкі на паперы — адны без асаблівых прэтэнзій, другія ж — з самымі сур'ёзнымі намерамі зрабіць сваё новае захапленне справай усяго жыцця. А пасля час і жыццё робяць свой суровы адбор.

Я не магу згадзіцца з тымі, хто сцвярджае, быццам «у семнаццаць гадоў пішуць усе», аднак такіх многа: толькі ў адной Мінскай вобласці ёсць сотні пачаткоўцаў. Гэта радуе, але разам з тым і наводзіць на роздум. Кансультантамі літаб'яднанняў пры рэдакцыях газет не заўсёды з'яўляюцца вопытныя літаратары. Пры гэтым часам іх перабывае некалькі за год. Самыя спрактыкаваныя літаратары не заўсёды бяруцца за гэтую патрэбную справу. А яны якраз маглі б плённа выхоўваць маладую творчую змену. Пакуль жа толькі Анатоль Вярцінскі некалькі гадоў працуе з трактаразаводскім літаб'яднаннем, Мікалай Гарулёў — пры «Аўтазаводцы». Алег Лойка кіруе літаб'яднаннем БДУ. Можа варта было б у буйных газетах уводзіць кансультанта ў штат? Безумоўна, узгадніўшы яго кандыдатуру з Саюзам пісьменнікаў.

Іншы раз можна пачуць ад некаторых літаратараў такое меркаванне: у каго ёсць талент, той стане пісьменнікам і без літаб'яднання.

Што ж, мажліва, гэта так. Ды ўсё ж нельга забывацца на моладзь. Некаторым даводзіцца гадамі спасцігаць тое, на што ў літаб'яднанні спатрэбілася б значна менш часу.

Мне ўспамінаецца, як прыйшла ў літаб'яднанне Тамара Розіна. Амаль кожны свой верш яна прысвячала тэме кахання. Пры гэтым філалагічная падрыхтоўка была ў яе слабая. Апынуўшыся ў творчым калектыве, Т. Розіна пачала карпатліва працаваць над тэхнікай вершаскладання, расшыраць тэматыку вершаў. У выніку ў яе творах акрэслілася і грамадзянская тэма, вершы сталі цікавейшыя.

Тое ж можна сказаць і пра Тамару Пяркоўскую з трактарнага завода. Яе вершы, якія былі спачатку дробнатэмнымі, цяпер вызначаюцца больш глыбокім грамадзянскім гучаннем, публікуюцца ў друку.

Звычайна ў літаб'яднаннях абмяркоўваюцца новыя творы маладых, даюцца парады аўтарам. Гэта, безумоўна, асноўны від нашай работы, але ж мы павінны пазбягаць аднастайнасці. Трэба шукаць такія цікавыя формы работы, каб ад пасяджэнняў было больш эфекту і карысці.

Добра, напрыклад, што ў літаб'яднанні пры рэдакцыі газеты «Мінская праўда» склалася традыцыя абмяркоўваць новыя кніжкі паэтаў з удзелам аўтараў. Добра, што пачаткоўцы выступаюць з такімі дакладамі, як «Лепшае ў паэзіі з перыядычнага друку за мінулы месяц». Усё гэта дапамагае ім пранікаць у творчую лабараторыю паэта.

Бясспрэчна, пытанне аб членстве ў літаб'яднанні — таксама немалаважнае. Часцей за ўсё бывае так, што хто прыйдзе на пасяджэнне, той нібы і з'яўляецца членам творчага калектыву. А ў наступны раз ён з'явіцца мо праз год. А калі б было афіцыйнае членства, гэта ўзняло б аўтарытэт аб'яднання, больш зацікавіла б маладых аўтараў.

І тут, на маю думку, заслугоўвае ўвагі вопыт Слуцкага раённага літаб'яднання. Там старэйшыя гурткоўцы Рыгор Родчанка, Віктар Барадзіч, Андрэй Лешчанка і іншыя многа зрабілі, каб пачаткоўцы не толькі акуратна наведвалі заняткі, але і даражылі членствам у літаб'яднанні.

На трактарным заводзе, хоць і склаўся пэўны касцяк літаб'яднання (тэхнік Тамара Пяркоўская, інжынер Іван Тамбоўцаў, токары Алесь Мосар і Уладзімір Рэмезаў), але колькі яшчэ не выяўлена! Такія здольныя людзі, як Гаўрыла Гарайнаў, Эма Пасынкава, Віктар Качура, якія друкаваліся не толькі ў заводскай газеце, — адзін раз наведаюць заняткі, тры — прапусцяць. Творчасць членаў літаб'яднання, пры шматтыражных газетах трэба прапагандаваць. «Мінская праўда», а асабліва ахвотна — «Вячэрні Мінск», даюць падборкі твораў маладых, аб асобных жа часопісах гэтага, на жаль, нельга сказаць.

Наспеў, як здаецца мне, час стварыць каардынацыйны орган літаб'яднанняў. У свой час быў створаны Мінскі абласны савет літаб'яднанняў пры рэдакцыі газеты «Мінская праўда» і Мінскім абкоме камсамола. Аўтар гэтых радкоў быў тады старшынёй абласнога літаб'яднання і стаў старшынёй абласнога савета. Савет прапагандаваў раённыя літаб'яднанні на старонках абласной газеты, праводзіў літаратурныя конкурсы, арганізоўваў перадачы аб творчасці аўтараў па абласному радыё, рыхтаваў да здачы ў выдавецтва калектыўны зборнік паэтаў Міншчыны.

Справа гэтая была ўвогуле новая, нешта ў нас ладзілася, нешта не ладзілася, і праз 2—3 гады гэты савет распаўся. Аднак, улічваючы станоўчы вопыт яго працы, варта было б стварыць у кожнай вобласці саветы літаб'яднанняў, якія накіроўвалі б работу мясцовых пачаткоўцаў і дапамагалі іх творчаму росту. Апошняя ж творчая нарада літаб'яднанняў адбылася ў 1968 годзе... Даўнавата!

Важным з'яўляецца і пытанне аб выданні калектыўных зборнікаў пачаткоўцаў. Пакуль што такія кніжкі выдалі толькі літаб'яднанні БДУ і аўтазаводскае. Што ж тычыцца аб'яднання пры «Мінскай праўдзе», то тут зборнік рыхтавалі тройчы, але ён так і не выйшаў. Трактаразаводцы таксама падрыхтавалі свой зборнік, яго можна было б выдаць.

У заключэнне хочацца звярнуцца яшчэ раз з заклікам да старэйшых літаратараў: настаўнік, выхавай вучня!

**Мікола ВЯРШЫНІН,**
**старшыня бюро трактаразаводскага літаб'яднання.**

# РАКА — З РУЧАЙКОЎ

З ЗАДАВАЛЬНЕННЕМ прачытаў артыкул Ул. Кобрына «Таленты... Каму іх адкрываць?».

Прафесійных пісьменнікаў гэты артыкул, магчыма, не зацікавіў, а членаў літаратурных аб'яднанняў ён не можа не хваляваць, бо ў ім закрануты некаторыя пытанні адносна маладых.

На жаль, Ул. Кобрын не сказаў, што была спроба яшчэ ў 1968 годзе паставіць работу літаб'яднанняў на сур'ёзную аснову. Тады ў Саюзе пісьменнікаў адбылася нарада прадстаўнікоў Мінскай вобласці. (У той час аналагічныя нарады праводзіліся і ў іншых абласцях).

На нарадзе быў выбраны Мінскі абласны савет літаб'яднанняў. Старшынёй яго стаў Мікола Вяршынін, намеснікам — аўтар гэтых радкоў. На жаль, савет ні разу не збіраўся. Не праявіў ініцыятывы і М. Вяршынін. Саюз пісьменнікаў таксама не прыняў усур'ёз абласны савет і не падтрымаў яго.

Тады ж я прапанаваў выбраць Рэспубліканскі савет літаратурных аб'яднанняў, які на правах секцыі масавай літаратуры павінен працаваць пры СП БССР. Гэта не было зроблена. Між тым, на маю думку, у Саюзе пісьменнікаў БССР павінен быць сакратар ці намеснік старшыні СП БССР, які займаўся б выключна літаб'яднаннямі.

Што датычыць статута, то Слуцкае літаб'яднанне выпрацавала і прыняло яго яшчэ ў 1968 годзе.

Вельмі добра было б, каб Саюз пісьменнікаў склікаў нараду членаў абласных саветаў літаб'яднанняў.

**Р. РОДЧАНКА,**
**настаўнік, член літаб'яднання пры Слуцкай райгазеце «Шлях Ільіча».**



**Сакавік. Лірычны радок...** **Фотаэцюд Ул. КРУКА.**

*Леанід* ГАЎРЫЛКІН





# Скарга

**Я напісаў раман пра беларускіх нафтаразведчыкаў «Не магу без цябе». Цалкам ён будзе надрукаваны ў часопісе «Полымя». Прапаную ўвазе чытачоў урывак з твора.**

**АЎТАР.**

...І ХОЦЬ КРУГЛОЎ вельмі чакаў новых звестак з першай буравой, але на работу не спяшаўся. Выйшаў з дому, як і заўсёды, ішоў нетаропка, павольна, як на шпацыр.

Цяпер ён не сумняваўся, што нафта ў беларускай зямлі ёсць... Хай атрымана яе ўсяго некалькі кубаметраў... Але гэтыя кубаметры мелі такое вялікае значэнне для навукі—для доказнасці, што нафта ўсё ж ёсць,— што і пераацаніць цяжка. Праўда, пра адкрыццё прамысловага месцанараджэння, дзеля чаго фактычна і вялася ўся разведка, і думаць пакуль што не было чаго. Але галоўнае, пацвердзілася яго думка, да якой у канторы амаль усе адносіліся скептычна, наконт нафтаноснасці Зуеўскай структуры. І хай цяпер не будзе знойдзена прамысловых запасаў нафты, ён, Круглоў, сваё зрабіў—прыехаў і ўсім даказаў, што ў прынцыпе на Палессі нафта ёсць. І няхай пакуль няма прамысловай, але прыйдзе час, будзе і яна. Будзе адкрыта! Не можа быць, каб яе не было ў нетрах. Але чаму яна так доўга не даецца чалавеку? Можа і сапраўды ў нечым мае рацыю Віктар Буткевіч? Можа тая, асноўная нафта і сапраўды дзе ў міжсолевых пластах, міма якіх праходзяць бурыльшчыкі без увагі? Дык не, тут жа, на першай, ніякіх газапаказанняў з міжсолевых. Ды і не можа іх быць. Практыка паказвае, што ў міжсолевых адкладаннях нафта сустракаецца вельмі рэдка. Моладзь... Ёй і нафту хочацца знайсці не там, дзе яе шукалі бацькі. А вось наконт магчыма занадта цяжкага для тутэйшняга геалагічнага асяроддзя глiністага раствора, Віктар можа і мае рацыю?.. Сапраўды, ніхто ж спецыяльна не даследаваў, які раствор патрэбны для мясцовых структур. Бяруць па шаблону, як усюды, ды яшчэ нават крыху цяжэйшы для больш гарантаванай бяспекі. Трэба б нашай лабараторыі разам з тэматычнай партыяй даследаваць гэтую праблему і падрыхтаваць адпаведныя рэкамендацыі.

Круглову апошняя думка падалася настолькі важнай, што ён спыніўся і ў сваёй запісной кніжцы, там, дзе рабіў запісы аб неадкладных справах, занатаваў гэту сваю апошнюю думку. Напісанае падкрэсліў—вельмі важна!

У канторы Круглоў адразу ж зайшоў да радыста, папрасіў яго звязаць з першай Зуеўскай. Каля рацыі аказаўся майстар Чугуй.

— Ну што?—спытаў Круглоў, прывітаўшыся.

— Нічога цікавага. Выпрабавальнік трымалі цэлую ноч, а...

— І колькі нафты?

— Паўкубаметра. А можа і меней.

— Што думаеце рабіць далей?

— Лічым, што не варта выпрабоўваць адзін і той жа пласт. Будзем падымацца вышэй.

— Паспрабуйце яшчэ гэты.

— Дык колькі можна, Мікалай Міхайлавіч? Я ж кажу, паўсутак трымалі выпрабавальнік...

— Патрымайце суткі,—загадаў Круглоў і павесіў трубку.

Круглоў зайшоў у свой кабінет, распрануўся, і як стаў ля акна, так доўга і стаяў, ахоплены роздумам, механічна пастукваючы пальцамі па падаконніку. Ён перабіраў у памяці ўсе выпадкі са сваёй шматгадовай практыкі і нічога падобнага на тое, што было цяпер, не мог успомніць. Ён нідзе не сустракаўся з такімі адхіленнямі ад нормы, з такімі загадкавымі праявамі, якім проста не знаходзіў тлумачэння. Нафта тут, як заварожаная. Пакажацца і знікне... А можа наогул яе няма? Але ж гэта зусім неверагодна. Хай невялікія запасы, але павінны быць.

У сваім жыцці Круглоў удзельнічаў у адкрыцці дзесяткаў месцанараджэнняў нафты і газу і ў Крыму, і ў Манголіі, і на Украіне, і на Каўказе, а тут, у Беларусі, раптам апынуцца ў такім тупіку... Хоць пакуль што адчайвацца няма ніякіх падстаў. Яму, Круглову, упершыню ўдалося даказаць, што нафта на Палессі не міф, не легенда, яна ёсць... Пакуль нельга гаварыць пра прамысловыя запасы, але... яшчэ ёсць час, трэба толькі больш настойліва, больш упарта шукаць.

Раптам у кабінет уляцеў дырэктар канторы Чокан, нейкі радасна-лёгкадумны, нястрымана ўзбуджаны.

— Віншую, Мікалай Міхайлавіч! Уся рэспубліка сёння віншуе вас...

— Прабачце, Павел Фёдаравіч, нічога не разумею.

— Вы хіба не чулі? Мікалай Міхайлавіч? Адстаяце ад жыцця, адстаяце... Сёння гаварылі па радыё пра наша адкрыццё.

— Вы жартуеце, Павел Фёдаравіч,—не верыў яму Круглоў.

— Ды не, Мікалай Міхайлавіч,—Чокан хацеў яшчэ нешта сказаць, але тут заўважыў, што галоўны зусім не ў настроі.

— І хто мог паведаміць такое глупства?

— Чаму глупства?

— А таму, што нафты няма. Сёння ноччу выпрабоўвалі яшчэ раз, нацадзілі меней чым паўкубаметра. Гэта не нафта, Павел Фёдаравіч.

— Але ж яна ёсць! І нічога, што па радыё перадалі. Хай ведаюць людзі,—смяяўся Чокан.

— Калі б я не бачыў, што вы жартуеце,—сказаў далікатна Круглоў,—я б смяртэльна пакрыўдзіўся на вас... Становішча такое, Павел Фёдаравіч, што не да параднай шуміхі. Мы ж і з Бурдзічам дамовіліся, пакуль што ніякіх звестак у прэсу не даваць. Хто ж гэта мог зрабіць?

— З нашых ніхто не даваў,—сказаў Чокан, хоць яму ўчора пад вечар і званілі з Мінска, з радыё—атрымаўшы допіс нейкага свайго пазаштатнага карэспандэнта, правяралі факты.—Гэта нехта з раённых газетчыкаў паслаў матэрыял. Людзі ж гавораць... А калі першы раз выпрабоўвалі, самі бачылі, колькі там было цікаўных. Не схаваешся.

— Я гэтага не магу зразумець. Павел Фёдаравіч, трэба ўсіх нашых людзей папярэдзіць, каб нікому ніякай інфармацыі без нашага з вамі ведама.

— Канечне, канечне,—сказаў Чокан.—Можна нават загадам правесці?

— Не будзе лішнім,—пагадзіўся Круглоў.

— Тады пайду і падрыхтую такі загад,—і Чокан выйшаў.

І калі паведамленне з буравой аб начным выпрабаванні толькі засмуціла Круглова і навяло на роздум, то вестка, з якой да яго завітаў Чокан, зусім вывела старога з раўнавагі, канчаткова сапсавала яму настрой. А трэба было іменна цяпер, можа як ніколі, напружана думаць, аналізаваць, супастаўляць, можа б варта падняць дакументы ранейшай разведкі, якія ён глядзеў падрабязна раней і цяпер многае забыў, і параўнаць з тым, што было раней на Быкаўскай. Але для такіх паглыбленых даследаванняў патрэбны спакой, якога якраз і не было... Круглоў не мог нічым займацца, хадзіў насуплены, маўклівы і толькі па некалькі разоў на дзень звязваўся па рацыі з першай Зуеўскай, цікавіўся вынікамі выпрабаванняў.

Нічога суцяшальнага не было.

А яшчэ праз колькі дзён пра адкрыццё беларускай нафты паведаміла і Маскоўскае радыё.

Круглоў не вытрымаў і пазваніў у Мінск Бурдзічу.

— Дзмітрый Зосімавіч,—ледзь стрымліваў сябе Круглоў.—Мы ж дамовіліся пакуль што не паведамляць нікуды пра нашы так званыя адкрыцці.

— А-а, Мікола,—нібы абрадаваўся Бурдзіч.—Я табе якраз збіраўся званіць.. Ну, што ты разышоўся?..

— А тое, што я не ведаю, каму гэты шум патрэбен.

— Ты пра што, Мікола?

— Ды сёння з Масквы перадалі.

— А-а...— засмяяўся Бурдзіч.—Хай гавораць, у іх праца такая... Ну, як поспехі там, Мікола?

Па тым, як лёгка Бурдзіч адносіцца да ўсяго гэтага, Круглоў здагадаўся, хоць і не паверыў сваёй здагадцы, што ён сам мае дачыненне да гэтай інфармацыі, можа нават спрыяў ёй, зыходзячы з невядомых Круглову інтарэсаў, ну, хоць бы дзеля таго, каб падняць аўтарытэт беларускай нафтаразведкі. Дык хіба такім шляхам яе падымаюць?

— А чаго вы збіраліся мне званіць?

— Тут даволі непрыемная рэч,—відаць, не вельмі хацелася гаварыць Бурдзічу.—Дарэчы, колькі вы там атрымалі нафты?

— Калі?

— Пры выпрабаванні.

— Мы некалькі разоў выпрабоўвалі.

— Пры апошнім?

— Паўкубаметра,—уздыхнуў Круглоў.

— Чым вы гэта тлумачыце?

— Што ёсць нафта.

— А не атрымалі вы пры выпрабаванні нафту, запампаваную туды пры аварыі?

— Мне такое глупства ў галаву не прыходзіла,—адрэзаў Круглоў.

— А вось некаму там з вашых прыйшло. Я не жартую, Мікола. У адну нашу ўстанову з Прыпяцка прыйшло пісьмо. Вядома, ананімнае. Аддрукаванае на машынцы... Тут, праўда, яно адразу трапіла ў рукі добраму чалавеку... Дык вось, невядомы аўтар сцвярджае, што пры выпрабаванні вы атрымалі раней запампаваную туды нафту. Прыводзіць і вынікі аналізу, праўда, павярхоўнага, той і другой нафты. Падабенства відавочнае. Вось так... Што загадаеш мне рабіць?

— Што, у вас там няма куды смецце выкідваць?—засмяяўся Круглоў.

— Каб вы атрымалі гэтай нафты хоць кубаметраў пяць, я даўно б выкінуў гэтае пісьмо ў сметнік і табе нічога не гаварыў... А так... Карацей, чакай камісію. Я тут падабраў нядрэнных хлопцаў. У крыўду не дадзім, Мікола,—у голасе Бурдзіча была ўпэўненасць.

— Чорт ведае, што робіцца,—абурыўся Круглоў.

— Не вешай носа, стары,—параіў Бурдзіч.—Усё будзе нармальна. Будзь здароў, мацуйся...

СЧАКАЎШЫ ПАРУ ДЗЁН пасля ад'езду камісіі, каб Бурдзіч паспеў пазнаёміцца з яе матэрыяламі, Круглоў пазваніў яму.

— Прывітанне, Дзмітрый Зосімавіч,—гаварыў бадзёра, упэўнена Круглоў.

— А-а, Мікола,—сказаў Бурдзіч так, нібы і чакаў яго званка.—Нешта ты вясёлы...

— Я заўсёды быў вясёлы, Дзмітрый Зосімавіч.

— А камісія?

— Ці мала іх было ў маім жыцці? А потым я абсалютна не згодны з яе вывадамі. І не толькі я. А і адзін з членаў камісіі.

— Ведаю, ведаю. Праўда...

— Сумняваецеся. Мне здаецца, абсалютна сумленны таварыш...

— Чорт яго ведае. Не разабраў. Ён даказваў увесь час, што нафты няма, і раптам... Ды з ім нельга не пагадзіцца, гэта праўда. На жаль, так думае толькі ён адзін, а члены камісіі...

— Хочаце сказаць, што нам пагражае...

— Дзівак,—засмяяўся Бурдзіч.—Камісію я пасылаў, я, разумееш? І пратаколы я трымаю ў шуфлядцы майго стала... Мы будзем іх вывучаць столькі, колькі трэба будзе... Як лічыш, да канца года я паспею пазнаёміцца з вывадамі камісіі?

— Думаю, што нам часу хопіць,—абрадаваўся Круглоў.—Толькі...

— Новая ідэя?

— Не зусім новая, але...

— Ну, давай.

— Мы раней планавалі прабурыць некалькі свідравін на Зуеўскай.—Круглоў пачаў расказваць пра некалькі разоў абдуманы план.—Мы не ведаем, што пакажа чацвёртая свідравіна, але тыя літры нафты, якія мы атрымалі на першай, пераконваюць мяне ў тым, што нафта недзе побач. Толькі дзе, вось пытанне. Лічу, што мэтазгодна забурыць свідравіну на суседніх структурах... Але на якой з іх сустрэнем нафту, тую і і пачнём даследаваць дэталёва...

— Калі знойдзем нафту, тады зусім іншая гаворка будзе... А цяпер рабіце так, як лічыце мэтазгодным. Пакуль у мяне няма падстаў цябе не падтрымліваць.

— Пастараюся не падвесці, Дзмітрый Зосімавіч. Толькі нашым планам, зацверджаным вамі, прадугледжаны свідравіны ў асноўным на Зуеўскай...

— А вы прышліце мне запіску ад канторы. Афіцыйна, па ўсіх правілах. Мы зацвердзім. Толькі не марудзьце...

— Праз дзень вышлем,—сказаў Круглоў.

— Жадаю поспеху, Мікола! Бывай!—Бурдзіч паклаў трубку.

Круглоў які час сядзеў і не варушыўся. Міжвольная ўсмешка асвятляла яго твар. Было ясна, што трэба рабіць далей. Круглоў выйшаў з-за стала, паправіў на носе акуляры і нетаропка скіраваўся ў кабінет да дырэктара канторы.

Чокан за апошні час схуднеў. Вочы запалі, як пасля хваробы. А яго круглы твар паваструў, рэзка абазначыліся скулы. І не дзіва, за ўвесь час кіраўніцтва канторай ён не перажываў яшчэ такога. Было ўсялякае, але каб калі-небудзь і хто-небудзь падумаў пра іх, што яны звычайныя жулікі, такога яшчэ не было. Гэта ж толькі ўявіць: будуць расказваць, як яны «адкрылі» на Палессі нафту... Ды гэта яшчэ нічога, а раптам нагору ўсё возьмуць і звольняць, ды яшчэ з такой фармулёвачкай, што хоць вешай за плечы рукзак, а на твар сетку і—у тайгу, пачынай ўсё спачатку... Прызнацца, дык ён з дня на дзень і чакаў звальнення, нават у думках падрыхтаваўся да яго і жонцы дома намякаў на магчымыя непрыемнасці. Больш таго, ён нават хацеў, каб тое рашэнне аб звальненні было хутчэй, каб не жыць у гэтай трывожнай невядомасці. На спагаду не спадзяваўся, ведаў, як строга цяпер ставяцца да ўсіх, хто прыпісвае, тым болей, што маецца афіцыйны дакумент аўтарытэтнай камісіі...

Чокан бачыў, што і Круглоў таксама ходзіць сам не свой. І таму нямала здзівіўся, калі да яго ў кабінет зайшоў галоўны геолаг у добрым настроі.

— Вось што, Павел Фёдаравіч, я толькі што гаварыў з Бурдзічам,—сказаў Круглоў.

— Што-небудзь прыемнае сказаў Бурдзіч?

— Прыемнае. Там вырашылі пакуль што ніякага ходу выведам камісіі не даваць. Так што ў нас ёсць час спакойна рэабілітаваць нашу нафтаразведку.

— Баюся, што нічога не атрымаецца,— прыкметна пасвятлеў і Чокан.—На што мы можам спадзявацца? Не бачу рэальнай перспектывы. Ну, прабурым яшчэ некалькі свідравін, а далей што? У мяне такое ўражанне, што калі мы і далей будзем працаваць так, як да гэтага часу, то нафты нам не бачыць, як сваіх вушэй. Прабачце, Мікалай Міхайлавіч, за шчырасць, але ў мяне такое адчуванне. Асабліва пасля гэтай камісіі. Я разумею, што не так лёгка знайсці выйсце, але... Я іншы раз думаю, а можа маюць рацыю і нашы маладыя геолагі?.. Ну, павінна ж быць нейкае выйсце з тупіка?

— Пакуль што ніякага тупіка не бачу,—усміхнуўся Круглоў, а потым расказаў аб сваіх меркаваннях наконт далейшай разведкі.

— Я пра свой план расказаў Бурдзічу. Бурдзіч не супраць, каб у бліжэйшы час забурыць па адной свідравіне на суседніх структурах. Прасіў толькі, каб мы пісьмова падрыхтавалі свае прапановы. Ад імя канторы, афіцыйна.

— Вы сур'ёзна?—падняўся Чокан, потым зноў сеў.

— Наконт афіцыйных прапаноў?—не зразумеў яго Круглоў.—Вядома. План разведкі нам зацверджаны і, каб яго змяніць, патрэбна наша афіцыйная папера. Фармальнасць, але...

— Не, я не пра гэта... Наконт вашага плана далейшай разведкі.

— Канечне, сур'ёзна,—здзівіўся Круглоў.

— Прабачце, Мікалай Міхайлавіч,—дырэктар перайшоў ледзь не на афіцыйны тон.—А падставы? Відаць, ёсць жа нейкія падставы для такога рашэння?

— Галоўная падстава тая, Павел Фёдаравіч,— Круглоў нібы не заўважыў настрою Чокана, гаварыў даволі дружалюбна,—што гэтыя структуры ніхто і ніколі яшчэ не разведваў.

— Значыцца, Мікалай Міхайлавіч, па прынцыпу: куды пальцам тыцнуў, там і буры.

— Павел Фёдаравіч, прабачце,—было відаць, што галоўны геолаг проста не разумеў дырэктара.

— Не, Мікалай Міхайлавіч, гэта не вы мне прабачце, — цяпер Чокану не сядзелася, ён абышоў вакол стала, стаў насупраць галоўнага геолага.—Я вам шчыра скажу, Мікалай Міхайлавіч. Я вельмі рады быў, калі вы прыехалі працаваць да нас. Я верыў у вас заўсёды, я і цяпер у вас веру. Я заўсёды вас падтрымліваў і буду падтрымліваць. Але... Я скажу вам шчыра. Вас не зразумеюць. Ад вас чакаюць сапраўды нечага новага, і раптам... Вы ведаеце, Мікалай Міхайлавіч, што вы прыйшлі да таго, з чаго некалі пачыналі вашы менеж вопытныя папярэднікі. І выходзіць, прабачце за параўнанне, мы як былі сляпымі кацянятамі, такімі і засталіся.

— Я вас не разумею,— нецярпліва забарабаніў па стале пальцамі Круглоў.

— Пры ўсіх самых найлепшых маіх адносінах да вас, Мікалай Міхайлавіч,—сеў на сваё месца дырэктар і далей гаварыў болей спакойна,—я не магу дапусціць, каб мільёны з народных сродкаў траціліся дарэмна.

— Вось вы пра што,—паблажліва ўсміхнуўся Круглоў.—Памылка ўсіх вас у тым, што вы чакалі ад мяне такіх ідэй, якія б адразу вывелі нафтаразведку з тупіка. Вы павінны ведаць, што аракулаў сярод геолагаў не было, няма і не будзе. Той геолаг сапраўдны, які кожны раз у канкрэтнай сітуацыі здолее прыняць найбольш правільнае рашэнне. У дадзенай сітуацыі маё рашэнне такое. Пакуль што я не бачу іншага больш рацыянальнага рашэння. Правільнае яно ці не—пакажа практыка. Вось так... Калі ёсць у каго іншыя прапановы, давайце абмяркуем. А калі няма, дык не будзем губляць час на пустыя спрэчкі...—галоўны геолаг падняўся, у дзвярах спыніўся.—Я зараз падрыхтую запіску Бурдзічу, добра было б яе сёння і выслаць. Вы яшчэ будзеце?

— Баюся, Мікалай Міхайлавіч, што я не падпішу яе.

— Ваша справа. Пашлю без вашага подпісу. Тлумачыць, чаму вы не падпісалі яе, не буду, гэта прыйдзецца рабіць вам.

ЧОКАН ХАЦЕЎ АДРАЗУ Ж, як выйшаў галоўны геолаг, сесці і напісаць Бурдзічу пісьмо: расказаць усю праўду, як тут яго сябра, Круглоў, шукае нафту, бо рана ці позна, ўсё роўна некалі ж стане вядома ўсё Бурдзічу, і тады той у першую чаргу спагоніць за недахопы з Чокана, дырэктара канторы, які замест таго, каб кіраваць калектывам, сядзеў і лопаў вушамі. Канечне, смешна нават спадзявацца, што Бурдзіч зараз жа зрэагуе на яго пісьмо, болей таго, ён хутчэй за ўсё яшчэ і не паверыць яму, Чокану. Ну і няхай! Затое, калі ўсё ўсім стане вядома, гэта пісьмо прыдасца яму як доказ таго, што ён своечасова сігналізаваў, своечасова біў трывогу. Добра, калі так, а раптам ты напішаш і ты ж будзеш вінаваты, і ніхто не ўздумае разбірацца?.. А навошта ўсё браць на сябе?.. А калі напісаць ад імя калектыву? Калектыў—гэта сіла! Іменна калектыў павінен сказаць сваё важкае слова.

Трэба сабраць нараду ўсіх геолагаў і інжынераў канторы і абмеркаваць новы план Круглова. Чокан верыў, што многія падтрымаюць яго, дырэктара, ён памятаў, якія былі спрэчкі, калі абмяркоўвалі план разведкі Зуеўскай структуры... Пасля нарады ён і напіша пісьмо. І тады гэта будзе не яго ўласная думка, а думка ўсяго калектыву, тады ад яго паслання не так лёгка будзе адмахнуцца і Бурдзічу.

Нарады ў канторы праводзіліся вельмі часта, і Круглоў, які хоць і ставіўся крыху скептычна да так званых калектыўных абмеркаванняў, усё ж не быў супраць яшчэ аднаго.

На нарадзе галоўны геолаг расказаў аб зменах у плане разведкі. Слухалі не вельмі ўважліва. Было ўражанне, што ніхто асабліва і не цікавіўся разведкай, кожны думаў пра сваё. Каб неяк разварушыць прысутных, адразу ж пасля даклада Круглова слова ўзяў Чокан. Ён паўтарыў усё тое, што не так даўно выказаў Круглову ў сваім кабінеце. І хоць яго выступленне здзівіла амаль усіх, але актыўнасці не выклікала. Выступіў адзін толькі Віктар, аднак яго выступленне не зрабіла асаблівага ўражання, бо ён выступаў часта і да яго прывыклі, а галоўнае, нічога новага не сказаў. Ён паўтарыў сваё, вядомае ўсім, сцвярджэнне, што трэба б было дэталёва разведаць адну якую нафтаносную структуру, каб выпрацаваць нейкую методыку пошукаў, якой яны пакуль не маюць і без якой ім нафты не знайсці.

— А дзе ж тая нафтаносная структура?—пад смех прысутных спытаў Круглоў.

Адносіны ўсіх не збілі з думкі Віктара, ён счакаў, пакуль усе зноў супакояцца, і ўпэўнена сказаў, што такой структурай была Быкаўская, якую дарэмна пакінулі, цяпер такой стала Зуеўская.

Лузько ж не рэагаваў ні на тое, што гаварыў галоўны геолаг, ні на выступленне Віктара. Сядзеў і толькі загадкава і хітравата ўсміхаўся...

Складалася ўражанне, што прысутным усё роўна было, дзе збіраюцца шукаць нафту. Відаць, таму, што многія з геолагаў падалі заявы аб звальненні, словам, настрой у людзей быў такі, што горшага і не трэба. Канечне, да гэтага давёў людзей Круглоў сваёй дзейнасцю, думаў Чокан. І, седзячы за сталом, разглядаючы панылыя твары геолагаў, Чокан яшчэ больш умацоўваўся ў сваёй рашучасці напісаць Бурдзічу ўсю праўду пра яго сябра, можа сам Бурдзіч яшчэ не ведае добра, які Круглоў цяпер, і проста слепа давярае яму...

Калі ў кабінеце засталіся галоўны геолаг і дырэктар, Чокан з ранейшай ветлівасцю сказаў:

— Я, бясспрэчна, пашлю ў Мінск вашы прапановы, Мікалай Міхайлавіч, але, як я ўжо гаварыў, падпісаць іх не магу. Гэта пярэчыць маім поглядам, маім перакананням. Вядома, калі Мінск зацвердзіць вашы прапановы, я буду выконваць. Распараджэнні вышэйшых органаў для мяне заўсёды былі законам.

— Прымусіць вас, паважаны Павел Фёдаравіч, паставіць свой подпіс я не магу,—усміхнуўся Круглоў, папраўіў акуляры на носе, нібы яны перашкаджалі яму лепей разглядаць Чокана, зноў усміхнуўся нейкай сваёй думцы.

— Я, канечне,—гаварыў Чокан, стараючыся не глядзець на Круглова,—не стану хаваць сваю думку і мушу напісаць пра яе таварышу Бурдзічу.

— Пішыце, пішыце, — уздыхнуў Круглоў, нібы пашкадаваў Чокана, і выйшаў з кабінета.

Чокан сядзеў і доўга яшчэ не адважваўся ўзяцца за ручку, якая ракетай тырчала з гранітнага абломка, адшліфаванага з аднаго толькі боку, там, дзе быў надпіс залатымі літарамі. Усё яшчэ вагаўся. Усмешка Круглова і яго гэтае «пішыце, пішыце», сказанае з яўным шкадаваннем, крыху збянтэжыла яго. Але Чокан цяпер верыў, што Круглоў зусім не той геолаг, якім яго лічаць усе, — можа ён быў калі славутасцю, толькі не цяпер, — бо нічога ж новага, нічога арыгінальнага так і не прапанаваў. Якраз так шукалі нафту і да яго. Не, можна пра ўсё маўчаць, толькі не пра гэта. І гэта будзе не паклёп, гэта будзе сумленная, прынцыповая гаворка...

Чокан дастаў з шуфлядкі стосік паперы і пачаў пісаць:

«Паважаны т. Бурдзіч!

Вы атрымаеце наш план далейшых разведачных работ і пад ім не знойдзеце майго подпісу. Гэта невыпадкова. Справа ў тым, што я ў прынцыпе не згодзен з планам галоўнага геолага. У прынцыпе я не супраць пашырэння разведкі, я супраць яе пашырэння ў дадзеным выпадку таму, што яна распаўсюджваецца зусім на выпадковыя структуры, — іх тут, неразведаных, болей сотні, не лішнім было б разведаць усе, але хто нам дасць такія сродкі?.. Так шукаць нафту, як шукае яе Круглоў, можна было б толькі тады, калі б не было такой навукі, як геалогія. І тым болей мяне здзіўляе, што Круглоў, вопытны геолаг, так упарта адстойвае свой пункт гледжання, не хоча прыслухоўвацца да думак іншых геолагаў, хоць тыя таксама нешта ж разумеюць у геалогіі.

У свой час на Быкаўскай структуры, а яшчэ раней і на іншых структурах, геолагі натраплялі на сляды нафты. Многія, у тым ліку і я, схільны былі да таго, каб правесці дэталёвую разведку перспектыўных плошчаў. Круглоў жа ні з кім не пагадзіўся і настаяў на разведцы дрэнна вывучанай Зуеўскай структуры. Пры заканчэнні бурэння першай свідравіны газакаратажнікам і маладому няволытнаму геолагу В. Буткевічу падалося, што бурыцца нафтаносны пласт. В. Буткевіч стаў дабівацца выпрабавання ў адкрытым ствале. У нас няма яшчэ значнага вопыту выпрабавання такім спосабам ды яшчэ на вялікай глыбіні, і я быў супраць яго, я настойваў, каб выпрабоўвалі свідравіну пасля заканчэння бурэння, як мы звычайна і рабілі. Круглоў мяне аб'явіў ледзь не кансерватарам, канечне, пры такой умове я не стаў пярэчыць і цяпер раскайваюся, бо выпрабаванне закончылася аварыяй, на ліквідацыю якой пайшлі дзесяткі тысяч рублёў. Круглоў застаўся абыякавы да аварыі. Праўда, я мусіў усё ж прыцягнуць вінаватых да адказнасці, аб чым сведчыць адпаведны загад.

Калі на першай Зуеўскай пры выпрабаванні была атрымана нафта, то Круглоў паспяшаўся аб'явіць аб адкрыцці ледзь не прамысловага месцанараджэння. Канечне, пра месцанараджэнне гаварыць рана, але што структура нафтаносная — гэта не выклікае ў мяне сумнення. Як вы ведаеце, аўтарытэтная камісія прыйшла да іншых вывадаў, але з яе вывадамі я рашуча не згодны. Я як горны інжынер вельмі разумею, што пры выпрабаванні атрымаць столькі раней запампаванай туды нафты ніяк немагчыма. Карацей, я перакананы, што пры выпрабаванні атрымана пластавая нафта. Дарэчы, так лічыць і Круглоў. І замест таго, каб адстойваць свой пункт гледжання, мабілізаваць усе свае веды, свой вопыт, навейшыя дасягненні геалагічнай навукі і глыбока, грунтоўна даследаваць Зуеўскую структуру, Круглоў з незрагоднай лёгкадумнасцю прапануе разведаць іншыя структуры. Такія дзеянні гавораць за тое, што чалавек, відаць, адстаў ад сучасных дасягненняў навукі, не ведае сучасных метадаў разведкі, сучаснага перадавога вопыту. Круглоў сваім беспрынцыпным, але поўным вялікай амбіцыі кіраўніцтвам давёў геалагічную службу ў канторы да таго, што большасць геолагаў страціла веру ў сябе, творча не ставяцца да свае працы, не праяўляюць ініцыятывы. Яны перасталі ўжо верыць самі сабе. На апошняй нарадзе, напрыклад, калі абмяркоўвалі новыя планы Круглова, большасць геолагаў вяла сябе вельмі пасіўна. Яны ведаюць, што да іх думкі ўсё роўна ніхто не прыслухаецца. Хаця, трэба сказаць, некалькі чалавек выказаліся супраць плана Круглова, але, як і трэба было чакаць, галоўны геолаг застаўся на сваіх пазіцыях. Канечне, у такой атмасферы працаваць цяжка, і не дзіўна, што многія падалі заявы аб звальненні...

Я ведаю, што вы, Дзмітрый Зосімавіч, і Круглоў даўнія сябры. Я, паверце, нічога не маю супраць Круглова як чалавека. Але, ведаючы вашу прынцыповасць, я пішу вам. Хачу, каб вы мелі дакладнае ўяўленне аб той сітуацыі, якая склалася ў нашай канторы дзякуючы Круглову. Я не магу дапусціць, каб гэтая сітуацыя яшчэ больш пагоршылася... Адным словам, калі Круглоў не паставіцца крытычна да сваіх рашэнняў, то пытанне ставіцца так—ён ці я. Я не магу спакойна глядзець на ўсё гэта, а ўплываць на падзеі не маю сілы, бо Круглоў адчувае вашу падтрымку ва ўсім. Адным словам, я не магу ўзяць на сябе цалкам адказнасць за работу канторы ў сучасны момант...

Калі не будуць прыняты рашучыя меры, я мушу тады звярнуцца ў іншыя інстанцыі...»

Напісаўшы апошні сказ, Чокан задумаўся: а ці не вельмі рашуча? Хаця няхай будзе так, хай ведае Бурдзіч, што яму не ўдасца, калі захоча, схаваць грахі Круглова. А калі Бурдзіч задумае звольніць яго, Чокана, дык ён тады пакажа гэтае пісьмо там, дзе трэба.

Ён націснуў кнопку пад сталом, зайшла сакратарка з прыёмнай.

— Вось вазьміце і аддрукуйце мне два экземпляры, — загадаў ёй Чокан.



# ВОДБЛІСКІ АЛЬПІЙСКІХ НАВАЛЬНІЦ

Шэсць гадоў з поспехам ідзе на сцэне тэатра оперы і балета БССР «Альпійская балада» Яўгена Глебава. Гэта камерны твор па матывах шырока вядомай аповесці В. Быкава, якая хвалюе глыбокім псіхалагічным зместам і ў харэаграфічным «перакладзе».

Нядаўна балет набыў новае гучанне амаль што прэм'ернага характару: ролі Джуліі і Івана ўпершыню выконвалі Аляўціна Карзянкова і Віктар Саркісян. Смела можна сцвярджаць: адбылося другое нараджэнне «Альпійскай балады» Я. Глебава — А. Дадзішкіліяні. І звязана яно перш за ўсё з мастацтвам сапраўднага майстра танца, балерыны шырокага творчага дыяпазону А. Карзянковай, добрым партнёрам якой выступае В. Саркісян. Пасля незабыўных па лірычнай натхнёнасці вобразаў Адэты-Адыліі, Зарэмы, Нікіі, Золушкі, Аўроры, Кітры і Джульеты натуральным працягам творчых шуканняў актрысы былі сцэнічныя партрэты сучаснай харэаграфіі — Марыя і Наталька ў балетах «Мара» і «Выбранніца». Цяпер своеасаблівую трыяду жаночых вобразаў у балетах Я. Глебава завяршыла новая партыя — Джуліі ў «Альпійскай баладзе».

**Балетмайстар А. Дадзішкіліяні, надаючы Джуліі пэўны італьянскі каларыт, у якасці лейтматыву ўводзіць у «тэмы вобраза» элементы тарантэлы. Усе памятаюць, як тонка перадае імкненне дзяўчыны да свабоды, да святла, да шчасця першая выканаўца ролі К. Малышава: яна падкрэслена драматычная. У А. Карзянковай, як і заўсёды, пераважае лірыка пачуццяў (пра гэта пераканаўча, дарэчы, сведчыць і нядаўняе выкананне партыі Раймонды ў балеце А. Глазунова). Праз чароўную лірычную празрыстасць характару «чытае» яна і староні аповесці В. Быкава, звязаныя з вобразам Джуліі.**

Джулія — А. Карзянкова адметна душэўнай чысцінёй. У імклівым рытме тарантэлы, які абуджае ў гераіні трывогу і пачуццё небяспекі, раскрываецца непасрэдная, пяшчотная, па-дзіцячы даверлівая душа дзяўчыны. Яна — як птушка, што вырвалася на волю, смела набірае вышыню, дыхае радасцю свабоднага палёту.

І — рэзкі кантраст. Абарваны струны мелодыі жаласліва-грацыёзнага танца дзяўчыны. Злавеснымі ценямі абступаюць герояў рады фашыстаў. У музыцы гучаць агрэсіўныя маршавыя рытмы. Ствараецца ўражанне, нібы гэты марш, як калючы дрот, катуе цела гераіні, аблытвае суцэльнай цемрай душу, асляпляе, раніць, спусташае яе. І ў гэтым хаосе раптам трымціць прамень пражэктара: высвечвае кволую, да болю безабаронную фігуру Джуліі — А. Карзянковай.

Танец набывае балючую надломленасць. У вялікіх вачах дзяўчыны — жах. Зноў уяўляецца ёй нямецкі лагер смерці. Але паступова танец напаўняецца пругкімі рухамі, пэўнымі і рашучымі жэстамі — у душы гераіні расце пратэст супраць рабства, супраць нечалавечай знявагі...

І вось, разарваўшы ланцугі чорнай смерці, Джулія зноў на свабодзе. Пачынаецца дуэт герояў.

Гэта прызнанне ў каханні. Забыты ганьба і знявага. Рухі рук пяшчотныя і дрыготкія. І вочы, з якіх знікае жах, свецяцца так ласкава, так чыста і так даверліва. Гэта вочы чалавека, што адстаяў права кахаць у цяжкай сутычцы са злом, імя якому — фашызм... На высока ўзнятых руках Івана замерла фігурка хударлявай дзяўчыны-падлетка. Недзе за туманным пераваламі засталося злое, а тут квітнее пачуцце, якое дае пачатак новаму жыццю...

Створан вобраз значны і яркі, псіхалагічна насычаны і жыццёва праўдзівы. Галерэя жаночых партрэтаў, увасобленых таленавітай балерынай А. Карзянковай, папоўнілася паэтычным вобразам Джуліі.

**Малады артыст балета В. Саркісян выконвае партыю Івана. Танцоўшчык валодае на дзіва высокім і шырокім скокам, які набывае, здараецца, і адценне гратэскавага характару. А гэта часам не пасуе драматычнаму гучанню вобраза Івана. Пакуль што выканаўца многае пераймае ў Л. Чахоўскага, які быў першым Іванам у «Альпійскай баладзе». Трэба спадзявацца, што з часам, адчуваючы музыку і галоўнае — разумеючы харэаграфію, у якой адлюстравана гуманная ідэя аповесці В. Быкава пра непераможнасць Чалавека, здольны танцор зможа адолець інфантыльнасць вобраза, створанага ім.**

Новае гучанне «Альпійскай балады» адцянялася выдатна зладжаным спевам хору (кіраўнік А. Кагадзееў) і аркестрам тэатра, якім так тэмпераментна і натхнёна дырыжыравала Т. Каламійцава.

Добра, што тэатр не толькі захоўвае спектакль, а і ўзбагачае яго, шукаючы новыя варыянты драматычнага расказа пра незабыўныя падзеі вайны.

**Ул. ЯФРЭМАЎ.**

На здымку — народная артыстка БССР А. Карзянкова і заслужаны артыст БССР В. Саркісян у «Альпійскай баладзе».

Фота С. ГРАХОЎСКАГА.

# А НАМЕР — ЛІРЫЧНАЯ ДРАМА...

*«АНТАНІНА» Г. МАМЛІНА Ў МАГІЛЁЎСКІМ АБЛАСНЫМ ДРАМАТЫЧНЫМ ТЭАТРЫ*

ЖАНР П'ЕСЫ вызначае, вядома, драматург. Часцей за ўсё тэатр прытрымліваецца аўтарскай задумы. Праўда, бываюць выпадкі, калі ў залежнасці ад рэжысёрскай трактоўкі жанр твора ўдакладняецца.

П'есу «Антаніна» Г. Мамлін назваў лірычнай драмай. Рэжысёр тэатра ў Магілёве А. Раеўскі цалкам згадзіўся з аўтарам і нічога ўдакладняць, мяркуючы па ўсяму, не збіраўся.

**Аб чым расказвае Г. Мамлін у сваёй лірычнай драме «Антаніна»?**

**Буйны маскоўскі археолаг Сцяпан Бармін у закінутай у заснежаным сібірскім лесе хаце лесніка сустракае жанчыну Антаніну. Стрыманую. Строгую. Гэтым яе надзяліла сібірская прырода. І раптам высвятляецца, што Антаніна — дачка Барміна, якую ён з маці пакінуў трынаццаць год назад. Пачынаюцца традыцыйныя ўспаміны, псіхалагічныя пакуты на тэму — як і чаму тое адбылося, хто вінаваты. І што ж высвятляецца? А нічога. Ніхто не вінаваты! Бармін часова захапіўся другой жанчынай і, як гаворыцца, пагнаўшыся за двума зайцамі, ні аднаго не злавіў. Яго жонка Соф'я Пятроўна не сцярпела здрады. забрала дачку і назаўсёды паехала ў Сібір.**

**І вось трынаццаць год пакутуюць тры чалавекі: Бармін, страціўшы сям'ю і не знайшоўшы другога шчасця, Соф'я Пятроўна, якая любіць толькі свайго мужа, і дачка Антаніна, што спазнала ўсю «асалоду» безбацькаўшчыны...**

Можна колькі хочаш спрачацца аб тым, патрэбны ці не патрэбны п'есы на маральна - этычную тэму. Яны былі, ёсць і будуць з'яўляцца, пакуль у жыцці існуюць такія паняцці, як шлюб і сям'я, пакуль чалавек будзе пакутаваць і радавацца, спазнаючы любоў і нянавісць, здраду і вернасць, абыякавасць і самаадданасць.

Але гэта не пазбаўляе нас ад неабходнасці кожны раз ставіць галоўнае пытанне: што хацеў сказаць сваім творам драматург, якія маральныя і этычныя ідэалы сцвярджае тэатр?

І калі падысці да ацэнкі п'есы і спектакля з гэтага пункту гледжання, то адказаць на пытанне не так і проста. Адкінуўшы крытычныя заўвагі, спрабую знайсці ў п'есе і спектаклі тое станоўчае, што павінна пасеяць у гледача зерне роздуму. Напэўна, драматычная сітуацыя, у якую трапляе Бармін і Соф'я Пятроўна, магла б навучыць людзей больш крытычна і прынцыпова ставіцца да сябе, быць цярплівымі да недахопаў іншых, глыбока асэнсоўваць высокі маральны і грамадзянскі абавязак бацькоў перад дзецьмі, якім яны даравалі жыццё.

Ці меў права аўтар у творы, які напісаны на пачатку 70-х гадоў, уздымаць такія пытанні? Пэўна, меў. Мы ведаем многа прыкладаў, калі праз драматычныя сутыкненні самага інтымнага, камернага характару ў п'есах уздымаліся эпахальныя грамадзянскія і сацыяльныя канфлікты.

Што ж мы бачым у дадзеным выпадку? Перш за ўсё, асабістая драма Барміна і жонкі так і застаецца асабістай драмай. У чым жа сутнасць канфлікту? Здрадзіўшы жонцы, Бармін, чалавек сумленны, пакутуе. Ён яшчэ не вырашыў, як яму паступіць, а Соф'я Пятроўна ўжо паставіла ўсе кропкі. Яшчэ прымірэнне было магчымым, а яна пайшла на канчатковы разрыў.

◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇◇

Магчыма, бывае ў жыцці і так. Але паспрабуем разабрацца ў матывіроўцы паводзін герояў.

З Барміным усё ясна. Ён памыліўся і пакараны жыццём. З Соф'яй Пятроўнай справа складаней. Жадаючы апраўдацца перад дачкой, яна расказвае пра тое, што за паўгода да абароны кінула дысертацыю, пра тое, як цяжка было пасля сталіцы прывыкнуць да вясковага жыцця, пра матэрыяльныя цяжкасці. Дачка, а разам з ёй і глядач, ставіць пытанне: дзеля чаго ўсё гэта было зроблена? І тут пачынаюцца непаразуменні.

**Аказваецца, усе ахвяры былі прынесены дзеля помсты. Можна было застацца ў Маскве і абараніць дысертацыю, можна было нават атрымліваць дапамогу ад Барміна. Але тады б бацька меў магчымасць бачыць дачку. А гэтага Соф'я Пятроўна перанесці не магла...**

**Мы ведаем класічныя прыклады. калі жанчыны ахвяравалі не толькі дабрабытам, але нават сваім жыццём. Толькі рабілася гэта ў імя нейкай высакарод-**

# ПАЧАЛОСЯ З «КАРМЭН»...

**Вогненная, тэмпераментная Кармэн, у гэты вечар была асабліва прыгожая. Гледачы некалькі разоў перапынялі спектакль апладысментамі. Народная артыстка БССР Л. Галушкіна не выпадкова выбрала іменна гэту партыю для творчай справаздачы. Тут найлепшым чынам змагла яна паказаць сваё вакальнае і сцэнічнае майстэрства, якое расцвіло і ўзмацнела на сцэне тэатра оперы і балета Беларускай ССР.**

**Сюды яна, выпускніца Маскоўскай кансерваторыі, прыйшла больш чым 20 гадоў назад. Творчым дэбютам яе была класічная «Русалка». З таго часу Лідзія Галушкіна актыўна выступае ў операх рускіх, савецкіх і беларускіх кампазітараў.**

**Лідзію Іванаўну Галушкіну любяць і высока цэняць прыхільнікі опернага мастацтва. Вось чаму ёй і прадаставілі гонар адкрыць серыю творчых справаздач, якія будуць праводзіцца на працягу ўсяго тэатральнага сезона.**

**Аб гэтым расказаў гледачам галоўны рэжысёр тэатра, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР А. Дадзішкіліяні перад пачаткам справаздачнага спектакля. А калі адгучалі апошнія акорды і апусцілася заслона, публіка шчодра адарыла Лідзію Іванаўну букетамі кветак.**

**Поспех салісткі ў «Кармэн» па праву падзялілі Міхаіл Галкоўскі (Хазэ), заслужаныя артысты БССР Аркадзь Саўчанка (Эскамільо), Людміла Златава (Мікаэла) і дырыжор — народная артыстка БССР Таццяна Каламійцава.**

**13 сакавіка пачалася серыя творчых справаздач майстроў опернага і балетнага мастацтва, прысвечаных 40-годдзю тэатра, якое спаўняецца сёлета.**

**БЕЛТА.**

# ГАЛОЎНАЯ СЛУЖБА

*ЗАСЛУЖАНАМУ АРТЫСТУ БССР Барысу УЛАДАМІРСКАМУ — 50*



Ён ніколі не гартае блакнот, каб праверыць сябе, які спектакль заўтра ці праз тыдзень. Помніць сэрцам. Унутрана падрыхтаваны і да «Людзей на балоце», і да «Начнога дзяжурства». Бачыць самога сябе ў ролі.

Так было заўсёды.

Спачатку Барыс Уладамірскі быў нібы ценем бацькі — Уладзіміра Восіпавіча, выдатнага майстра сцэны, і Барыса Платонава, чые гераічныя ролі ён дубліраваў, пачынаючы, здаецца, з горкаўскіх «Апошніх» і з «Рамэо і Джульеты». Яго параўноўвалі. Радаваліся, калі ён «адрываўся» ад папярэднікаў і выступаў самастойным аўтарам сцэнічнага вобраза. Пазней успрымалі Б. Уладамірскага майстрам, здатным на арыгінальнае раскрыццё чалавечай індывідуальнасці.

Мабыць, гэта вызначылася яшчэ тады, калі ён стаў Пятром Каламійцавым і іграў гэтую ролю ў чаргу з Б. Платонавым. «Ці сумленны чалавек—

**най мэты. Ахвяра ж Соф'і Пятроўны аказалася дробнай і эгаістычнай. І таму як бы выканаўца ролі маці В. Кабатнікава ні імкнулася апраўдаць сваю гераіню, ні дачка, ні глядач дараваць ёй гэтага не могуць. Фінал спектакля абяцае шчаслівую развязку. Дачка знойдзе бацьку, і ў сям'і, нарэшце, запануе мір. І па меры таго, як вырашаюцца ў спектаклі, па сутнасці, неіснуючыя канфлікты, расце наш пратэст. Навошта было тэатру адзінкавы, дробны выпадак уводзіць у рамкі тыпізацыі, выносіць на сцэну як абагульненне сучасных праблем жыцця?**

Што ж, у спектаклі няма нічога станоўчага? Ёсць. І як гэта ні парадаксальна гучыць, радуюць у спектаклі акцёры, асабліва выканаўца ролі Антаніны В. Рагачова. Яе дзяўчынка з крыху насцярожаным тварам, з калючымі, як у вавёрачкі, чорнымі вочкамі адразу ж прываблівае. Не па гадах самастойная, яна выглядае часам занадта разумнай і дарослай у сваіх разважаннях, а часам у яе паводзінах адчуваецца дзіцячая даверлівасць, чысціня і наіўнасць. Галоўнае ж, у чым пераконвае артыстка В. Рагачова, — яе гераіня не ардынарная. Гэта чалавек з акрэсленым характарам, з прынцыповымі патрабаваннямі да сябе і другіх. Як самы строгі суддзя, судзіць яна бацьку і маці, выяўляючы пры гэтым значна больш здаровага розуму, чым дарослыя. Нібы маленькая часцінка суровага сібірскага краю, Антаніна — Рагачова гордая, бескампрамісная і адначасова пяшчотная і вельмі, вельмі добрая.

Роля Антаніны ў п'есе лагічна найбольш апраўданая, і гэта, безумоўна, дапамагае выканаўцы. Дакладна перадае Г. Мамлін часамі супярэчлівыя пачуцці Антаніны: дзяўчына ўпершыню сустракаецца з драматычным вязьмом і спрабуе разабрацца ў ім. Тут верыш і аўтару і актрысе В. Рагачовай.

Не тое — вобразы Барміна і Соф'і Пятроўны. Артыстам Ю. Труханаву і В. Кабатнікавай увесь час даводзіцца пераадольваць штучнасць тых абставін, у якія трапляюць іх персанажы. Парушэнне жыццёвай логікі пачынаецца фактычна з першых сцэн, калі Бармін знаёміцца з Антанінай і дазнаецца, што ёй шаснаццаць год і што яе ў дзяцінстве кінуў бацька. Няўжо ўсе гэтыя супадзенні яго не насцярожваюць? Не гаворачы ўжо пра тое, што цяжка ўявіць сабе сітуацыю, каб чалавек у мірны час за трынаццаць год не здолеў знайсці людзей, ведаючы іх імёны і прозвішчы.

Супярэчліва выглядаюць і ўчынкі герояў. Чаму Антаніна, дазнаўшыся, што ў гарах гіне юнак, адразу ж не прыходзіць да думкі бегчы ў вайсковую часць? Чаму яна выбірае найбольш складаны шлях і прапануеісці па дапамогу ў вёску праз рэчку, на якой пачаўся ледаход? Чаму, нарэшце, Бармін, спачатку забараняе ёй рызыкаваць жыццём, а праз некалькі хвілін дакарае ў абыякавасці? Гэтыя «чаму» можна працягнуць і далей. Але разам з драматургам у многім павінны і артысты, якія механічна выконваюць волю аўтара.

Вядома, тэкст ёсць тэкст. Яго не пераробіш і не зменіш. Але дзеянне на сцэне — гэта не толькі ўчынкі, словы. Гэта яшчэ і думка. Прыгадаю сцэну размовы Соф'і Пятроўны з Антанінай у другой дзеі. Раскрыўшы дзяўчынцы прычыны свайго ўчынку, маці — Кабатнікава даказвае сваю маральную правату. Так у аўтара. Але існуюць яшчэ паўзы, падтэксты, другі план, без якога немагчыма ўявіць сабе сучасны тэатр. Асэнсаванага раскаяння ў В. Кабатнікавай не адбываецца, адгэтуль рушыцца структура вобраза. Нашто ж былі трынаццаць год пакут, калі ў фінале той жа неразумны эгаізм?

**«Барацьба страсцей» Барміна і Соф'і Пятроўны ўспрымаецца ў спектаклі як дробны прыватны выпадак. Меладраматычнасць сітуацыі падкрэсліваецца ў асобных выпадках і мастацкім афармленнем В. Гараднякова. Напрыклад, калі ў сцэнах успамінаў на задніку з'яўляецца праекцыя фотаздымка сям'і Барміна. Наогул такі прыём ужо стаў штампам. Тым больш, што ў спектаклі «Антаніна» ён успрымаецца не як філасофская метафара, а як лабавая ілюстрацыя. Фотаздымак з сямейнага альбома нібы павучае гледача: вось што магло быць і вось што атрымалася па віне герояў.**

ТАКІМ ЧЫНАМ, нам здаецца, драматург памыліўся, вызначыўшы жанр «Антаніны» як «лірычную драму», а рэжысёр, мяркуючы па ўсяму, удакладніць яго ці не пажадаў, ці не здолеў. У Магілёве іграецца меладрама не вельмі высокага гатунку на тэму — здарэнне ў адной сям'і. Тэатр мог прадбачыць, што так яно і будзе.

**Тамара ГАРОБЧАНКА,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**

**НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ**



**Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі БССР паказаў прэм'еру — аперэту А. Сандлера «Чацвёра з вуліцы Жанны» (п'еса Р. Плоткіна). Паставіў спектакль заслужаны дзеяч мастацтваў УССР А. Барсегян, дырыжор — заслужаны артыст БССР П. Кірыльчанка, дэкаратыўнае афармленне заслужанага дзеяча мастацтваў РСФСР М. Вінаградава і П. Калейпіна.**
**На здымку — сцэна са спектакля.**

Фота Ул. КРУКА.

СЛОВА ПРА МАЛОДШАГА СЯБРА

# І КОЖНАЯ РОЛЯ — ПОШУК



У жыцці...

Упершыню я сустрэўся з Нінай Левашовай не як партнёр на сцэне, а ў якасці рэжысёра. У спектаклі «Шануй бацьку свайго» маладой актрысе была даручана роля Яўстоліі. Што мне запомнілася з тых рэпетыцый? Як гэта ні дзіўна, адна заўвага ў адрас Ніны: «Пачакайце, актрыса Левашова, дайце магчымасць і другім выказацца пра свае ролі». Няўрымслівая, дапытлівая, яна заўсёды імкнецца даведацца пра жыццё чалавечага духу свайго персанажа як мага больш, як мага падрабязней. Выказвае свае меркаванні, спасылаецца на тэкст, тлумачыць падтэкставыя адценні. І—спрачаецца. З рэжысёрам. З партнёрамі.

З уласнага вопыту ведаю, што такі характар артыста не дае яму спакою. З такім партнёрам выступаць на сцэне вельмі цікава. Ніна сама, бывае, адкрывае нешта нечаканае ў гатовым сцэнічным партрэце і прымушае сваіх калег (нават мяне, старога!) шукаць новыя інтанацыі ў адказ, свежыя, непрадугледжаныя рэжысурай і выканаўцамі фарбы. Гэта не азначае, што толькі Ніна выступае ў нас шукальнікам навізны. Здараецца, што хтосьці з больш вопытных майстроў зробіць нешта нечаканае і для яе. Толькі для яе нічога нечаканага, здаецца, на сцэне быць і не можа.

Маладая актрыса і на рэпетыцыі, і перад пачаткам спектакля настроена на хвалю таго эмацыянальнага ўздыму і тых стылявых асаблівасцей пастаноўкі, што прадугледжаны драматургам і рэжысурай. Нават калі Ніна не вельмі ярка загрыміраваная, яна ззяе ўнутраным святлом персанажа.

Колькі гарэзлівасці і хітраватай дасціпнасці «нарыхтавала», напрыклад, Беатрычэ Н. Левашовай у шэкспіраўскай камедыі «Многа шуму з нічога»! Здаецца, зараз з яе вострага язычка сарвецца жарт або кпіна, ад якіх разгубіцца не толькі салдафон Бенядзікт (Ул. Куляшоў), а і рафініраваны прайдзісвет і дыпламат дон Хуан (Г. Дубаў). Вядома, што Беатрычэ павінна быць вельмі музычнай і рухавай. Такой яна і выглядае ў Н. Левашовай. За пералівамі голасу і пластычна-выразнымі рухамі ўгадваецца натура свабодная, жыццярадасная. Актрыса пераконвае нас, што яе гераіня прагне шчасця і ўмее па-жаночы вынаходліва змагацца за яго. І застаецца ў нечым пяшчотнай, нават лятуценнай...



На сцэне...

Або прыгадаю кантраст да шэкспіраўскай камедыі — «Зыкавы» М. Горкага. Там Ніна іграе дзяўчынку-падлетка Сцёпку. І ў змрочны свет мяшчан і купцоў, розных дзялкоў і махляроў урываецца на дзіва трапяткі сонечны праменьчык. І гэты праменьчык сваім зіхаценнем адцяняе тое светлае, што было калісьці ўласцівае і Анціпу Зыкаву (А. Шэлег), і яго сястры Софіі (Г. Маркіна і Т. Шашкіна), і нават Шохіну (Л. Трушко). Такая ігра дарагая ўдвая, бо актрыса, нават не ўступаючы ў кантакт з некаторымі галоўнымі дзейнымі асобамі, як мы гаворым, «працуе» на агульную атмасферу спектакля, уносіць у яго палітру істотную фарбу. А роля — эпізадычная. Яна вымагала ад Ніны не толькі жаданне сыграць добра, а і прафесійнага ўмельства здзяйсняць свае творчыя намеры.

А разгарніце афішы і праграмкі казачных спектакляў тэатра імя Якуба Коласа — «Сіняй вароны» Р. Пагодзіна, «Прынцэсы і Дрывасека» па матывах чэшскіх народных казак, або «Цудоўных пярсцёнкаў Альманзора»... Часамі мне асабіста здаецца, што рэжысура такіх спектакляў можа смела арыентавацца на тую веру ў прапанаваныя казкай абставіны, якой жыве на сцэне актрыса Н. Левашова. Гэтым я не збіраюся прынізіць іншых удзельнікаў названых спектакляў. У іх добра іграюць Б. Сяўко і Л. Трушко, М. Цішачкін і Т. Кокштыс, Я. Шыпіла і В. Зубараў... Артыстычная моладзь нашага тэатра наогул любіць жыць у святочным настроі казачных прадстаўленняў, адрасаваных малечы.

Мушу выказаць дакор старэйшым таварышам Н. Левашовай па сцэне. Мы не здолелі пераканаць рэжысуру, што Ніна мае здольнасці і майстэрства, прыдатныя для стварэння вобраза нашай сучасніцы. Тое, што ёй прапаноўвалі іграць з сённяшняга жыцця, — гэта своеасаблівыя эскізы, часам таленавіта выкананыя акцёрскія накіды да таго вобраза, які Н. Левашова можа і мае права ствараць у сучасным рэпертуары. З пажаданнем, каб гэта запаветная мара актрысы здзейснілася як мага хутчэй я і закончу сваё слова пра аднаго з малодшых маіх сяброў па сцэне Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа.

Перакананы, што і надалей яна ў кожнай ролі будзе настойлівым шукальнікам свежых фарбаў і рысаў для сваіх гераінь.

**Федар ШМАКАЎ,**
народны артыст БССР.
Віцебск.

наш бацька?» — пытанне, звернутае юнаком да маці, гучала ў вуснах Б. Уладамірскага прысудам-выклікам. Адзін з «апошніх» у доме Каламійцавых, Пеця пасля гэтага пытання нібы развітваўся назаўжды са светам жандараў і іх памагатых, рабіў першы крок на волю. Нічога хваравітага ў ім не было. Юнак адчуваў яшчэ слабыя, але крылы для ўзлёту... Так ва ўстойлівую партытуру спектакля, які справядліва лічыўся класічным увасабленнем горкаўскай п'есы, уносілася нечаканая і па-мастацку абгрунтаваная нота: Пётр Каламійцаў «выламваўся» з асяроддзя, рабіўся зусім «чужым» у родным доме.

Змяніў Барыс Уладамірскі Б. Платонава і ў ролі Эзопа. Агульны малюнак спектакля «Ліса і вінаград» з прыходам новага выканаўцы галоўнай ролі, здаецца, застаўся па-ранейшаму стабільным. Але штосьці трапяткое працінала цяпер, умоўна кажучы, тэму кахання Эзопа. Ён уступаў у паядынак з Ксанфам не толькі таму, што быў вышэй за канкурэнта духоўна і інтэлектуальна. Эзоп Б. Уладамірскага нёс адказнасць і за сябе, і за каханую Клею. Ён ратаваў і абараняў яе годнасць і хараство свайго пачуцця. Каханне памнажала сілы гэтага прыніжанага раба і ўзнімала яго на трагедыйныя вяршыні, з якіх адкрылася яму ісціна без падманаў. Сын Элады, ён выходзіць з пакутлівых выпрабаванняў лёсу як з полымя, што гартуе волю. Герой Б. Уладамірскага меў права сказаць пра сябе словамі Максіма Багдановіча: «Калісь глядзеў на сонца я, мне сонца асляпіла вочы. Ды што мне цемень вечнай ночы, калісь глядзеў на сонца я...» Так спасцігаў каханне Эзоп Б. Уладамірскага — сонцам!..

Акцёр гэты не абміне любой магчымасці, каб выявіць сябе як мастака. Усплёскі яго тэмпераменту бываюць вулканічнымі. Ён сакавіта і вынаходліва іграе сатырычна завостраныя моманты. Бывае то дэманстратыўна шумным, як, скажам, у спектаклі «У мяцеліцу», то не менш дэманстратыўна прыцішаным. Ад пластычнай лепкі вобраза, які часам набывае статуарны выгляд, да бытавога праўдападабенства, калі яго персанаж, здаецца, проста завітаў на сцэну з вулічнага натоўпу, — такая амплітуда знешніх прыстасаванняў Б. Уладамірскага. Карацей кажучы, ён звяртае на сябе ўвагу.

І ва ўсім, што ён робіць на сцэне, адчуваецца высокі мастакоўскі густ. Пакорліва падначальвацца рэжысёрскаму плану ён не любіць. Густ артыстычны для яго нешта іншае. Гэта гранічна яркае (аж да так званых «гастралёрскіх» самавыяўленняў) жыццё ў вобразе, якому дадзена пэўнае месца ў канфліктах драмы або камедыі. Прыгадаем хоць бы хікметаўскага «Дзівака». Б. Уладамірскі карыстаецца правам цалкам прымаць на сябе галоўны прамень рампы, быць у цэнтры яе, і ён жа, калі так дыктуе аўтар і рэжысура, смела па-акцёрску «знікае» ў змроку, даючы прастору іншым персанажам і выканаўцам.

Такі густ — рыса сапраўднага артыста. Здатнага мысліць самастойна ў межах напісанага пісьменнікам і пастаўленага рэжысёрам. Амаль чвэрць стагоддзя назад Б. Уладамірскі так сыграў Аксаніча ў «Канстанціне Заслонаве». Мабыць, не адзін я і дагэтуль помню, як артыст праз надзвычай сціплы тэкст прабіваўся да велічнай драмы. «Пішыце. Аксаніч—прозвішча маё, завуць — Яўгеній. Мне дваццаць. Я — беларус. Усё...» Гестапавец кажа: «Ты будзеш гаварыць. Я буду лічыць да дзесяці... Раз...» І тут малады партызан кідаў у твар ворагу: «Ну, раз, а потым два, тры і чатыры!..» — і ў голасе і ва ўсёй постаці яго была непахісная воля выстаяць да апошняй хвіліны, да скону. Артыст узрушаў гледачоў веліччу душы гэтага звычайнага юнака, чый подзвіг станавіўся ўпоравень з подзвігам Заслонава.

З той пары і па сённяшні дзень, узбагачаючы арсенал майстэрства, аддана служыць і натхнёна працуе на сцэне Барыс Уладамірскі. З яго імем звязаны хвалюючыя старонкі творчага жыцця купалаўскай трупы, акцёрскага сузор'я, сярод якога і ён ззяе адметным святлом у зладжанай гармоніі выдатных талентаў.

**Барыс БУР'ЯН.**



*Сцэна са спектакля «Святло з Усходу» па п'есе П. Глебкі.*

# РЭХА ГРАМАДЗЯНСКАЙ...

Яўген РАМАНОВІЧ,
заслужаны артыст БССР

БЫЛО ГЭТА яшчэ да вайны. Аднойчы сядзелі мы з Кузьмой Чорным у скверыку каля тэатра (Першага БДТ) на лавачцы і да нас падышоў Пятро Глебка. Ён толькі вярнуўся з Віцебска і быў пад гарачым уражаннем ад прэм'еры «Над Бярозай-ракой», яго першай п'есы, пастаўленай у Другім БДТ. Зіхацеў вельмі цёплы красавік 1940 года. У бляску блакітных лужын на дарожцы сквера пакручаста выгіналіся чорныя галіны дрэў.

— Ну, як там прэм'ера?—запытаў адразу Кузьма Чорны, як толькі Глебка падсеў да нас на лаўку.

— Не вельмі, — усміхнуўся Пётр Фёдаравіч.

— Ну, вядома, аўтар праўды не скажа, дарма пытаюся.

— Не, чаму, — сур'ёзна адказаў Глебка, — калі б не тэатральны грукат, страляніна, мітусня на сцэне, то глядач, відаць, засумаваў бы, вельмі ўжо ўсё расцягнута, многа лішніх слоў і асоб. Калі б я пісаў п'есу нанова, то зрабіў бы іначай. Я сам хацеў скараціць, але рэжысёр не дазволіў.

— Бадай на іх немач, на гэтых рэжысёраў, такія ўжо скваппыя, — павёў плячыма Чорны. —Першую генеральную рэпетыцыю «Бацькаўшчыны» закончылі недзе пад раніцу. Гэты няўрымслівы Літвінаў усё патрабуе ад мяне: давай ды давай. Напішыце, кажа, Мікалай Карлавіч, «манархічную інтэрмедыю». Навошта, пытаюся, яшчэ і «манархічная інтэрмедыя», калі і тых, што напісаны, хапае. Што занадта, то не здрова. Ведаеце, кажа, трэба як мага расшырыць рамкі спектакля, паказаць час, эпоху. Я кажу: хіба ж мала эпохі ў п'есе, у спектаклі? Не спрачайцеся, кажа, мы яшчэ з вамі фінал зробім новы, пакажам Гушку ў калгасе. І што вы думаеце, угаварыў-такі. Я напісаў, як той школьнік, па ўказцы. А куды ўсё падзелася? Кату пад хвост! А ўсё Жэнька вінаваты, — павярнуўся ён у мой бок, — павінен быў адгаварыць.

— Ну што ты, Кузьма, хіба можна нашага Льва Маркавіча адгаварыць ад таго, што ён надумаў? Гэта ж тое самае, што адабраць у льва кавалак мяса.

— Вось так і Аксёнаў, — уздыхнуў Глебка. — Не ведае пачуцця меры. Усё, кажа, патрэбна, усё працуе на тэму...

— Аксёнаў вопытны рэжысёр, мхатаўскай школы, — сказаў я.

— І тым не менш, захапіўся масоўкамі, кажа, народ, народ трэба паказаць, галоўны герой — народ.

— А як акцёры? Хто Азорыча, Таццяну Марыч выконвае? — зацікавіўся Кузьма.

— Ды акцёры стараюцца, але рэжысёр і мастак усё на знешні бок спектакля хіляць, каб больш эфектна было, менш дбаюць, каб паказаць людзей. Тут, можа, і я вінаваты, характары герояў не вельмі глыбокія. Затое музыка харошая! — засвяціўся Глебка.

— А хто пісаў?

— Багатыроў.

— Ну, дык мы ж яго ведаем, глядзелі от разам з лібрэтыстам, — кіўнуў ён у мой бок,—оперу «У пушчах Палесся». Яўген можа сказаць пра кампазітара.

— Глыбокі майстар Анатоль Васільевіч, хоць і малады яшчэ. З ім працаваць цікава, — адазваўся я.

— Таленавіты чалавек, — пацвердзіў Глебка. — А што да акцёраў, то Азорыча выконвае Цімох Сяргейчык. Праўдзіва, натуральна. Усё ў яго выходзіць, як у жыцці. Не іграе, а жыве ў вобразе камісара. Таццяну Марыч выконвае Бялінская Марыя Сяргееўна, прывабная актрыса, шчырая. Але больш за ўсё мяне хвалявала, як атрымаецца вобраз Сярго Арджанікідзе. Усё ж такі аб вядомых бальшавіках у нас ніхто яшчэ не пісаў. Ролю Арджанікідзе выконвае Мікола Звездачотаў, і, ведаеце, пераканаўча. Я нават сказаў бы—добра. Узнёсла, у героіка-рамантычным плане. Гледачы нават у часе дзеі яму апладзіруюць, і не толькі вобразу, але і акцёру. Наогул публіка ў Віцебску эмацыянальная, адкрыта і горача, ад душы пляскае. Любяць гледачы свой тэатр, акцёраў. У Віцебску мне спадабаўся і будынак тэатра, прыгожы, на чатыры паверхі, прасторнае фае, святла многа, свая электрастанцыя на двары. Летам, відаць, там вельмі хораша, — сад, фантан, альтанкі...

— Былі, былі, ведаем, — азваўся Кузьма, — ты пра спектакль скажы.

— Не, не лёгкая гэта справа рабіць спектаклі, знайсці сваю мову з калектывам, з гледачом, — сказаў Глебка. — Гэта не тое, што, скажам, кніжку выдаць. Не спадабалася, не захацеў чытаць далей, паклаў на паліцу, дый годзе. А тут трэба трымаць яго, гледача, да канца спектакля, а то што ж...

— Я, відаць, больш не памкнуся пісаць п'есы, — падняўся з лаўкі Кузьма Чорны, — хоць вось і ўгаворвае Яўген напісаць пра Заходнюю Беларусь, пра вызваленне...

— Ну як можна не напісаць аб тым, што так ураждвае, хіба душа дазволіць? Такая падзея, такія людзі, новыя, зусім новыя для нас людзі. На спектаклі «Партызаны» Кандрата Крапівы ў Беластоку людзі плакалі і смяяліся, ускоквалі з сваіх месц, крычалі «ўра», калі на сцэне з'яўлялася чырвонае войска, у канцы спектакля кінуліся на сцэну, гушкалі акцёраў...

— Гэта праўда, за сэрца хапае,— сказаў Чорны, — Людзі там цяжкага лёсу, яны ў драму просяцца, іх крык душы такі зразумелы. Гэта... Гэта, як спеў, як харал, тут арган патрэбен, арган, каб выказаць усю глыбіню пачуццяў народа...

— Ён напіша, — хітра ўсміхнуўся мне Глебка. — І я ўжо думаю аб новай п'есе. Хачу набрацца смеласці паказаць у ёй Леніна.

ПРАЙШЛА, адгрымела Вялікая Айчынная вайна. Пазабываліся неяк і тыя даваенныя планы, намеры, задумы. Але жыццё, відаць, так наладжана, што мастак вяртаецца да таго, аб чым калісьці марыў.

Прыгадваю. Мы ідзём у тэатр па новых вуліцах Мінска, якія змянілі пасля знішчальнай вайны сваё архітэктурнае аблічча. Ён гарыць агнямі велічных новабудоўляў. Імчацца аўтамашыны, шыпіць тралейбус па асфальце і льецца людскі паток жывых і гаваркіх мінчан. На абноўленым старым тэатральным будынку Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы (былога БДТ-1) рэклама рэспубліканскага фестываля тэатраў: «Беларускі дзяржаўны тэатр імя Якуба Коласа. Сёння — драматычная паэма Пятра Глебкі «Святло з Усходу».

Мы крочым з аўтарам п'есы Пятром Глебкам у знаёмыя пакоі закулісцай часткі. За акном гудзе завіруха, а тут цёпла і ўтульна і не хочацца сунуць нос на вуліцу. Пакуль ішоў спектакль, я ў думках пераносіўся зноў у тую грамадзянскую вайну, у атмасферу рэвалюцыі, бо быў сведкам незабыўных падзей. Цяпер аўтар чакае водгуку на свой твор. Я гэта разумею.

— Ну што ж, Пётр Фёдаравіч. Што я магу сказаць, спектакль сапраўды значны, напоўнены подыхам навальнічных дзён нашай гісторыі, Кастрычніка на Беларусі. Барацьба за перамогу ленінскіх ідэй — гэта ж барацьба за нашу свабоду, і глядач вельмі добра гэта разумее, акцёры даносяць ідэю без усякай дыдактыкі, сваімі эмоцыямі. Сапраўды ж, кожнаму з нас, гледачоў, зразумела, адкуль на працягу жыцця беларусаў ішло святло вызвалення. Еднасць народаў... Мы перамаглі фашызм, бо на абарону Радзімы паўсталі ўсе народы Савецкага Саюза. Абараняючы Сталінград, і туркмен і сібірак ведалі, што яны абараняюць сваю свабоду, свой дом, сваю сям'ю, сваё жыццё. Усе гэтыя думкі ўзнікаюць у галаве, калі глядзіш спектакль, у гэтым яго сучаснае гучанне, хоць ён аб грамадзянскай вайне, аб мінскіх бальшавіках, аб барацьбе з контррэвалюцыяй у даўнія ўжо часы.

— Святло з усходу — гэта не толькі мая тэма, — задумліва гаворыць Глебка, — гэта тэма нашага народа. Людзі многія стагоддзі марылі аб тым, калі яно прыйдзе, калі скончыцца чорная ноч прыгнёту, жабрацтва, галечы, нечуванага панскага здзеку і крывавай пад'ярэмшчыны. Аб усім гэтым мне даўно хацелася сказаць.

— І яно прыйшло, святло з усходу. Гэта вобраз п'есы — сцяг спектакля, яго сутнасць.

— А як вам Ленін?

— Мушу сказаць, што Анатоль Трус падае яго тактоўна, мякка, без націску і аніякага найгрышу, вельмі чалавечным. Ленін у яго выкананні поўны глыбокіх думак і клопатаў. Калі ў Малчанава Ленін — трыбун, правадыр, аратар, то ў Труса ён прасцейшы, больш бытавы і абыходлівы з людзьмі. Трус дамогся і пэўнага знешняга падабенства і ўласцівых Леніну інтанацый і рухаў. Усё гэта знаёмае, дакладна зроблена і таму ўспрымаецца гледачом як належнае. Мне здаецца, галоўная заслуга акцёра — добрая падача ленінскага слова, ацэнка яго значэння і сутнасці. А наогул, з'яўленне Леніна ў пачатку спектакля і яго палымяныя словы — гэта як наказ, як запеў, як заклік да барацьбы за свабоду, за будучыню. І гэта натхняе. Разумееш, чаму і за што людзі ідуць на смерць, на пакуты, пад якім сцягам ідуць, для якой будучыні. Мне здаецца, што хоць Трус і не адкрыў для нас нічога новага, нечаканага, але ён дастойна ўвасобіў вобраз Ільіча і задаў тон усяму спектаклю. А вы ж ведаеце, што тон робіць музыку. Які тон задасць акцёр у пачатку спектакля, такім ён і будзе да канца. Гэта як уверцюра ў оперы, яна прыадкрывае заслону надзей і вядзе нас па сцэне.

— Я вельмі задаволены,—з удзячнасцю глянуў на мяне Глебка. — І калі так думаюць гледачы, то мая мара ў пэўнай меры здзейснена. Я, вядома, не цешу сябе надзеяй, што адной кароткай сцэнай мне ўдалося паказаць велічны вобраз Леніна, але я зрабіў пачатак, а можа за мной пойдуць іншыя беларускія драматургі. Вось каб жыў Кузьма Чорны, ён бы мог гэта зрабіць вельмі глыбока і дасканала.

— Цалкам з вамі згодзен, — уздыхнуў я. — Няма Кузьмы, няма! — Мы памаўчалі: відаць, перад кожным з нас узнік вобраз гэтага светлага чалавека.

— А як вам Мяснікоў — Шэлег?

— Ён крыху сухаваты і часам пераходзіць на крык там, дзе патрэбна цвёрдае, важкае слова. Крык — не адзнака сілы, асабліва ўнутранай. Але ў яго яркі тэмперамент, воля і многае такое, што было ўласціва Мяснікову. Хоць ён і прынёс свой каўказскі тэмперамент на нашу зямлю, але крычаць неабавязкова, паказваючы паўднёвы запал і гарачнасць. Ад каго я ў поўным захапленні, дык гэта ад Ільінскага — Цімчука. Вы заўважылі, як мінскія гледачы прымаюць гэтага прывабнага акцёра? А ў Віцебску варта толькі пачуць яго голас з-за куліс — і ўжо ажыўленне ў зале і апладысменты. Усе чакаюць яго выхаду на сцэну. Па-мойму, ён выдатна ўвасобіў сваю ролю. Ад пачатку да канца бачыш вельмі маляўнічую фігуру беларускага селяніна-бедняка, хадака да Леніна па вясковых справах. У ім і яскравы народны гумар і кемлівасць. Ён не губляецца ў самых складаных абставінах. Ён адразу знаходзіць агульную мову з салдатамі-франтавікамі, бо яго інтарэсы — гэта і іх інтарэсы, яны зразумелыя і блізкія кожнаму з іх. Яго апантанасць рэвалюцыяй, упэўненасць, што настаў час забіраць ад заграбастых рук памешчыкаў зямлю, гаспадарыць на ёй хлебаробу, захапляе нават гарадскога гледача, і вы ж бачылі, якія авацыі яму наладжвалі. Апрача таго, ён вельмі тыповы беларускі селянін.

— Выдатны акцёр, такіх мала, — згадзіўся Глебка.

— Што да іншых, то ўсе, мне здаецца, на сваіх месцах, хто больш, хто менш дасканала ў залежнасці ад сваіх здольнасцей паказваюць герояў п'есы.

— Не кожнаму мне ўдалося даць дастаткова гліны, каб ляпіць вобраз, ёсць пралікі і недабор. Але ведаеце, цяжка ў эпічнай драме: хочацца сказаць аб усім і, як некалі казаў Літвінаў,—паказаць эпоху.

— Я лічу, Пётр Фёдаравіч, што вам пашанцавала з рэжысёрам. Скібнеўскі вельмі глыбокі, вопытны і, галоўнае, спакойны рэжысёр акадэмічнага плана. Ён менш ганяецца за знешняй эфектнасцю, зусім не імкнецца паказаць сябе ў спектаклі, а галоўную ўвагу аддае акцёрам, рабоце з імі. Ён творча выхоўвае калектыў, і гэта вядзе да ансамбля, што вельмі важна для сучаснага спектакля. Да таго ж Аляксандр Браніслававіч валодае добрым густам, высокай тэатральнай культурай.

— І як чалавек ён надзвычай цікавы і прыемны, — згадзіўся Глебка. — Ведаеце, што ён захацеў мне падарыць на памяць пасля прэм'еры? Канарэйку. Так, так, канарэйку. Ён зняў з акна клетку з канарэйкай і падаў мне. Я кажу: дарагі мой Аляксандр Браніслававіч, нашто гэта? Бярыце, кажа, бярыце, у мяне, бачыце, іх цэлы ансамбль, і ўсе на розныя галасы. Я яму кажу: дзякую за падарунак, але я не ўмею з ёю абыходзіцца, даглядаць, загублю птушку, а яна, відаць, у вас не простая канарэйка, а нейкая асаблівая, пяюха. Іменна, кажа Скібнеўскі, хіба я стаў бы вам дарыць звычайную птушку? А гэтая — з Канарскіх астравоў, цудоўна спявае і не патрабуе якога-небудзь асаблівага дагляду...

ПРЫГАДАЎШЫ сустрэчы з П. Глебкам як драматургам, мушу сказаць, што ён даў яркія і натхнёныя творы, якія мелі вялікае значэнне ў працэсе станаўлення нацыянальнага тэатральнага мастацтва. Я не лічу, што «Над Бярозай-ракой» і «Святло з Усходу» можна ўспамінаць толькі як мінулае: гэтыя драмы, мабыць, яшчэ не раз прыцягнуць увагу нашай рэжысуры і артыстаў.

# ВОДАР РОДНЫХ НІЎ

*ВОСЕМ ГОД назад напрадвесні жанчыны сайгаса «Сцяг Кастрычніка» Бярэзінскага раёна сабраліся на першую спеўку. У вёсцы Трасцянка была невялічкая хаціна. Ніхто ў ёй не жыў. Ішлі на рэпетыцыю, і кожная спявачка несла паленца дроў. Напалілі ў печы, вымылі падлогу. Спявалі аж да першых пеўняў...*

*З таго разу рэпетыцыі адбываліся часта. Неўзабаве давялося выступаць на раённым аглядзе. І гэта было сапраўднае адкрыццё. Пра таленавітых спявачак загаварылі. Паслухаць народныя песні ў самабытным выкананні вакальна-этнаграфічнага ансамбля прыязджаў народны артыст СССР Генадзь Цітовіч. Частым госцем і чулым дарадцам была ў калектыве метадыст Мінскага абласнога дома народнай творчасці Наталля Фёдараўна Фёдарава, якая не парывае сувязі з ансамблем і па сённяшні дзень.*

*Тры гады назад вакальна-этнаграфічнаму ансамблю «Лявоніха» было прысвоена званне народнага. Зараз у калектыве спявае 30 жанчын. Да старэйшых спявачак далучылася моладзь, і разам яны нясуць слухачам непаўторнае хараство народнай песні.*

*12 сакавіка Дом мастацтваў Беларускага тэатральнага аб'яднання і Дом мастацкай самадзейнасці Мінскага абласнога савета прафсаюзаў наладзілі сустрэчу з калектывам народнага вакальна-этнаграфічнага ансамбля «Лявоніха». Гэта быў цудоўны, незабыўны вечар. Кіраўнік ансамбля Г. Яфрэмаў расказаў, як ствараўся калектыў, пра яго творчы шлях.*

*Адна песня змяняе другую. Кранаюць сэрцы задушэўныя мелодыі «Вярба, вярба», «А я думала, маладзенька» (салістка — маладая спявачка Ніна Клімовіч), «Зажурылася маладая ўдовушка» (гэта песня з рэпертуару Н. Халецкай) і іншыя.*

*Гасцей шчыра вітала народная артыстка СССР Ларыса Александроўская. Спявачкам падаравалі кветкі, іх узнагародзілі гарачымі воплескамі.*

**Я. КАЛЯДА.**



Група ўдзельнікаў народнага вакальна-этнаграфічнага ансамбля «Лявоніха».
Фота Ул. КРУКА.

# ПЕРШАЯ ПРАКТЫКА

**Мінула ўжо чатыры гады з таго часу, як упершыню ў рэспубліцы на базе бібліятэчнага факультэта Мінскага педагагічнага інстытута імя Горкага адбыўся першы набор на аддзяленне культурна-асветнай работы.**

**— Тады нам усім было нялёгка, — успамінае загадчык кафедры хоразнаўства Яўген Мікалаевіч Рэутовіч. — Інструментальнай базы не было, аўдыторыі не былі прыстасаваны да заняткаў з хорам. Даводзілася вырашаць шэраг гаспадарча-адміністрацыйных работ. Сёння нам значна лягчэй, нягледзячы на тое, што займаецца не 25 чалавек, як было ў першы год, а 175 студэнтаў. Выкладчыкамі да нас прыйшлі добрыя спецыялісты, майстры сваёй справы: Альбіна Васільеўна Пекуцька — старшы выкладчык хоразнаўства, Мікалай Васільевіч Рахчэеў — старшы выкладчык па пастаноўцы голасу, Людміла Мікалаеўна Барысава — старшы выкладчык музыкі і шэраг іншых вопытных выкладчыкаў. Са з'яўленнем у 1972 — 1973 гадах новай кафедры культурна-асветнай работы, якую ўзначаліла кандыдат мастацтвазнаўства Юлія Міхайлаўна Чурко, значна ажывілася работа са студэнтамі.**

**І вось ужо — першая пераддыпломная вытворчая практыка.**

**З тымі, хто ад'язджае на практыку, сустрэлася начальнік Упраўлення культурна - асветных устаноў Міністэрства культуры БССР Ж. Сінельнікава. Жанна Міхайлаўна падзялілася думкамі аб стане работы клубаў, дамоў культуры рэспублікі, расказала аб задачах, якія стаяць перад работнікамі культуры, заклікала будучых спецыялістаў з поўнай творчай аддачай папрацаваць на месцах і ў будучым застацца там для пастаяннай работы.**

**Сёння старшакурснікі раз'ехаліся па ўсіх кутках роднай Беларусі. У Дамачоўскім гарадскім доме культуры Брэсцкай вобласці метадыстам і інструктарам пачалі працаваць Кацярына Падлубенка і Ларыса Владыка. З хваляваннем стала за дырыжорскі пульт на сустрэчы з хорам Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі Галіна Ганчар. У свае родныя мясціны, у Бялыніцкі раённы аддзел культуры, паехаў Валянцін Скугараў. Будучых кіраўнікоў хораў, спецыялістаў першага выпуска аддзялення культурна-асветнай работы педінстытута можна сустрэць у Мінску і Гродна, Барысаве і Клецку, Слоніме і Баранавічах — там, дзе ёсць патрэба ў папаўненні атрада культработнікаў, спецыялістаў сваёй справы.**

**В. ДАПКЮНАС,**
**выкладчык аддзялення.**

# Над Дастоевым зоркі...

**У ПАЎЦЁМНЫМ пакоі пульсуе, як жывое, падміргвае па-сяброўску зялёнае вока прыёмніка. Песня запаўняе пакой, вырываецца на вуліцу...**

**Ой, рэчанька, рэчанька,**
**Чаму ж ты няпоўная?..**
**Ой, лі, люлі, люлі,**
**Чаму ж ты няпоўная?..**

**Недзе там, пад высокімі радыёмачтамі, віток за вітком раскручваецца тоненькая магнітафонная стужка, якая на многія гады ўвабрала ў сябе гэтую чутую-перачутую і заўсёды такую новую песню. А мы ўспамінаем тых, у чыіх сэрцах нарадзілася гэтая мелодыя, каб цяпер вось так ляцець над усёй зямлёй. Ці чуюць яны ў гэты позні час далёкае рэха сваіх галасоў?**

**Можа вярнулася Ганна Шавель з вячэрняй дойкі і прысела на мінутку ля прыёмніка, паклаўшы на калені стомленыя рукі. Слухае з ціхай усмешкай, спрабуючы вылучыць у дружным хоры свой голас...**

**Прыехаў з далёкага рэйсу Мікалай Новік, паставіў гарачую машыну ў гараж, і па дарозе ўжо дамоў дагнала яго, даляцеўшы з дынаміка, песня. Так і спыніўся на вясковай вуліцы...**

**Адсунуў кнігу Анатоль Праневіч, калгасны будаўнік, на дыбачках падышоў да прыёмніка і дадаў гучнасці, каб пачуць кожнае слова...**

**На некалькі кіламетраў выцягнулася вясковая вуліца. Багаты хлебам,**

ЯНЫ ЧАСТА сустракаюцца на шырокай сельскай вуліцы, якая ўвечары заліта яркім святлом, што падае навокал ад ліхтароў. Цяперашні старшыня калгаса Васіль Несцеравіч Гурыновіч і першы кіраўнік і арганізатар гэтай гаспадаркі, заслужаны калгаснік Сцяпан Васільевіч Якуш. Сыдуцца, пагутараць пра былое, падзеляцца ўражаннямі аб сённяшніх справах.

А пасля пойдуць сваімі сцежкамі, якімі ходзяць доўгія гады, тымі сцежкамі, што вытаптаны на дастоеўскай зямлі ўласнымі нагамі. І кожны думае пра сваё. Васіль Несцеравіч успамінае першыя гады свайго старшынства.

Нялёгкія былі часіны. Гаспадарка ледзь канцы з канцамі зводзіла. Не было чым разлічвацца з калгаснікамі. У касе — вецер гуляў. Можна было б пайсці на хітрыкі, як гэта зрабілі некаторыя яго калегі — спісаць даўгі. Але на такі крок Гурыновіч не рашыўся. Людзей падманіш, сябе не апраўдаеш.

І старшыня калгаса пачаў шукаць выйсце. Сабраліся ў праўленні, усё ўзважылі, падлічылі. Добры лён расце на іх землях, але яго не паспяваюць як след апрацоўваць. Растлумачылі калгаснікам — такое дабро прападае. Падналеглі, адправілі трасту на нарыхтоўчы пункт. Тое ж самае і з кармавой базай. Калі добра, па-гаспадарску аднесціся, то можна адкармліваць і прадаваць дзяржаве большую колькасць свіней і бычкоў.

Мінуў час. Упартая праца дала свой плён. Разлічыліся з калгаснікамі. Людзі паверылі ў свае сілы, заўважылі арганізатарскія здольнасці кіраўнікоў гаспадаркі. Заможным стаў калгас «Чырвоная зорка». Летась гадавы даход склаў 1 мільён 419 тысяч рублёў, 450 тысяч чыстага прыбытку. Сабекошт цэнтнера мяса, бульбы, збожжа аказаўся ніжэй планавых паказчыкаў. Калгаснікі зарабілі шмат грошай. Штомесячная зарплата атрымалася высокай і ў жывёлаводаў, і ў паляводаў, і ў механізатараў.

Паважаюць свайго старшыню калгаснікі. Не пра ўласны дабрабыт дбае Васіль Несцеравіч. Яго сэрца напоўнена клопатамі пра грамадскія справы, пра жыццё і лёс хлебаробаў.

Аднойчы ў праўленне калгаса завітаў былы франтавік, інвалід Вялікай Айчыннай вайны Іван Кандратавіч Цырман. Пераступіў парог кабінета. Прывітаўся, прысеў на крэсла. Старшыня адчуў, што ён нешта хоча сказаць, але не асмеліцца.

— З якой думкай, Іван Кандратавіч? — першы парушыў маўчанне старшыня.

— Зазірнуў па асабістай справе. Вось што хачу сказаць. Надоечы працавалі ў мяне песляры. Новую падлогу пераклалі, вокны адрамантавалі. Я ім грошы за работу даю, а яны адмовіліся. Калгас, маўляў, заплаціў. Таму і прыйшоў вам вялікае дзякуй сказаць.

Кранулі за сэрца цёплыя словы чалавека, развярэдзілі душу старшыні.

Не аднаму Івану Кандратавічу зрабіў дабро Васіль Несцеравіч. За трынаццаць гадоў працы зроблена вельмі многа, каб у дамы калгаснікаў прыйшоў дастатак, каб яшчэ больш прыгажэла жыццё аднавяскоўцаў. Новае аблічча набыла не толькі вёска Дастоева — цэнтральная сядзіба калгаса, іншы выгляд маюць вёскі Застружжа, Красіеўка, Вулька і Заруддзе.

— Аднавілі вёскі, збудавалі нямала, — расказвае Васіль Несцеравіч. — Як бачыце, праўленне калгаса размяшчаецца ў новым будынку. На першым паверсе кантора. На другім—сельскі Савет, гасцініца, «пакой шчасця» (тут праводзіцца рэгістрацыя шлюбаў і нованароджаных). На другім баку вуліцы — дзіцячы сад-яслі на 100 месцаў. А побач сталовая, універмаг, прадмаг, крыху далей — жылыя дамы. І ўсё будуем толькі гаспадарчым метадам.

Будаўнікі свае, і здольнасці ім не займаць. Будынкі ўзводзяцца на сучасным узроўні. Па 200—260 тысяч адпускае калгас штогод на культурна-бытавое будаўніцтва. За апошнія гады пабудаваны тры школы, клуб у Красіеўцы на 200 месцаў, два фельчарска-акушэрскія пункты, шматкватэрныя жылыя дамы з усімі выгодамі, прадуктовы магазін у цэнтры калгаса.

— Але нам давядзецца яшчэ папрацаваць нямала, — разважае Васіль Несцеравіч, — наблізіць жыццё хлебаробаў да жыцця гараджан, мяняць аблічча вёсак. У цэнтры калгаса пабудуем штучнае возера, плавальны басейн. І гэтую задуму ажыццявім хутка. Сродкаў хопіць.

Над Дастоевым апускаецца шэры полаг ночы. Васіль Несцеравіч спакваля крочыць дадому...

□

А для дырэктара дома культуры Аляксея Будкевіча работа толькі пачынаецца. Трэба пераглядзець рэпертуарны план будучага канцэрта, паслаць аўтобус, каб сабраць самадзейных артыстаў з суседніх вёсак, прасачыць, як праходзяць рэпетыцыі, ды і самому паўтарыць тое, што прыйдзецца дэманстраваць перад гледачамі.

Работы ў яго шмат. Кіраўнік харавога калектыву, выкладчык музычнай школы, філіял якой адкрыты ў Дастоеве з прыходам сюды на працу Аляксея Будкевіча.

— У нас мастацкая самадзейнасць арганізавана на высокім узроўні, — гаворыць Аляксей. — Працуюць духавы і эстрадны аркестры. Кіруе імі Васіль Гуляеў. З прыходам на работу мастацкага кіраўніка Валянціны Бычковай ажывілася работа драмгурткоўцаў. Ёсць вакальная група, хор у складзе 40 чалавек, агітбрыгада, «Колас», танцавальны калектыў.

Самадзейныя артысты нашага дома культуры наладжваюць вечары адпачынку не толькі ў сваім калгасе, яны частыя госці суседніх гаспадарак. Асаблівым поспехам карыстаюцца агітбрыгада і хор. Летась агітбрыгада ўдзельнічала ў абласным конкурсе і заняла трэцяе месца. А хор — першае ў раёне. Толькі за год самадзейныя артысты атрымалі 12 грамат і дыпломаў.

Асаблівым поспехам карыстаюцца салісткі Ганна Давыдзюк і Ніна Якуш. Актыўна ўдзельнічаюць у самадзейнасці не толькі паляводы і жывёлаводы, але і наша інтэлігенцыя — настаўнікі Ганна Давыдзюк, Вікторыя Кухарчук, Пётр Кераз, медработнікі Ганна Райковіч, Вера Калошыц і многія іншыя.

Інтарэсы моладзі ўсебакова ўлічваюцца праўленнем калгаса. Самадзейныя артысты не адчуваюць ні ў чым недахопаў. Калгас дапамог набыць духавыя інструменты. Ёсць таксама і гітары, баяны, хапае касцюмаў. Добра наладжана ў гаспадарцы і спартыўная работа. Для спартсменаў набылі форму, інвентар. Належным чынам абсталявана свая фоталабараторыя...

А тым часам са сцэны даносіліся чароўныя гукі электрагітары, бубніла труба, вёў сваю мелодыю саксафон. Гэта Васіль Гуляеў рэпеціраваў з аркестрам юных музыкантаў, якія пасля дзённай працы прыйшлі на яркі агеньчык дома культуры.

Актыўны ўдзельнік мастацкай самадзейнасці — галоўны інжынер калгаса Уладзімір Свірыдаў, які прыехаў сюды адразу пасля заканчэння Мінскага інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. Да вясковага жыцця яму не прывыкаць. Вырас у вёсцы на Бабруйшчыне. Палюбіў прафесію механізатара. Пасля заканчэння дзесяцігодкі і працы ў калгасе паступіў у інстытут, а калі скончыў яго, накіравалі ў Дастоева.

Стараемся зрабіць усё неабходнае, каб поўнасцю механізаваць працаёмкія працэсы. Укаранілі механізацыю ў свінаводстве, узводзім тыпавы кароўнік, дзе ручную працу заменяць механізмы. Ды і ў паляводстве многія культуры сеем, убіраем і апрацоўваем толькі машынамі.

— Весела нам жывецца ў калгасе, — працягвае Уладзімір. — Пасля работы прыходзім у дом культуры. Я спяваю ў эстрадным

мясам і малаком калгас імя Леніна. Але ёсць у яго працаўнікоў яшчэ адно багацце — вялікая любоў да песні, вясёлай і сумнай, сур'ёзнай і жартоўнай. Здаўна спявалі. За плугам і з цэпам, на сенажаці і ў полі, на вяселлях і хрысцінах. Гадоў амаль трыццаць назад самыя галасістыя сышліся ў хор. Разам і спяваецца лепей. Стаў хор вёскі Вялікае Падлессе

# РАЗАМ З ПЕСНЯЙ

вядомы на ўсю акругу, на ўсю рэспубліку. У 1965 годзе прысвоілі яму званне народнага.

...У адзін з гэтых вясновых дзён у трактарыста Эдуарда Усакоўскага нешта накшталт юбілею: сем гадоў назад упершыню прыйшоў ён у хор. І стаў хор на адзін голас званчэй. Мог хто сказаць — прыйшоў на гатовае. Ды толькі дарога Эдуарда на сцэну была нялёгкая.

Пасля вайны засталіся ўтрох — маці, Эдзік і яго малодшая сястрычка Галя. Латаная-пералатаная вопратка, шнуркамі падвязаны абутак, пустыя чыгункі ў халоднай печы... У доўгія зімовыя вечары сядалі цесна, каб сагрэць адзін аднаго, і маці ціха-ціха запявала пад гудзенне верацяна старую песню. Слухаў Эдзік, баючыся паварушыцца, каб не перашкодзіць песні.

Неяк вясною зайшоў у хату незнаёмы мужчына ў дыхтоўнай футры да пят, зняў шапку, але, паглядзеўшы ў пусты кут, зноў надзеў на даўно нястрыжаную галаву. Жылі яшчэ такія на далёкіх хутарах ды ў лясах. Неяк абышло іх ваеннае ліхалецце.

— Чуў, гаспадыня, сын у цябе ёсць. У пастухі вазьму на лета.

— Маленькі ён яшчэ, — прытуліла да сябе Эдзіка маці, — куды яму ў пастухі.

— Ну, як ведаеш. Ды вось есці што будзеш? Я магу збожжам...

— Засумуе ён адзін, — не згаджалася маці.

— Не засумуе. Гармонік ёсць у мяне...

Пачуў Эдзік пра гармонік, паглядзеў на маці:

— Пайду, мамка, пусці...

У першы ж дзень уручыў гаспадар сямігадоваму пастуху разам з пугаю старэнькую зацяганую двухрадку. І пайшоў Эдзік услед за каровамі, намацваючы няўмелымі пальцамі няхітрую мелодыю. Стамляліся рукі — спяваў усё запар, што пачуў і запомніў ад маці ў зімовыя вечары...

Багацеў створаны ў Вялікім Падлессі калгас. Лепш зажылі і Усакоўскія. Часцей вясёлыя песні гучалі ў іх маленькім доме. Спявалі ўсе: маці, Галя і, вядома ж, Эдзік...

Мы ідзём з Эдуардам Усакоўскім шырокай вясковай вуліцай.

— На трактары спяваю, а на сцэне аб трактары думаю, — жартуе Эдуард. — Калі гаварыць сур'ёзна, працаваць лягчэй, калі добрая, вясёлая песня ў душы жыве...

Ён расказвае пра паездкі Падлескага хору ў вобласць, у Мінск, Маскву. Не гаворыць толькі пра тое, як бывае нялёгка пасля працоўнага дня ў дождж, у холад ісці некалькі кіламетраў з цёплага дому на чарговую спеўку ў дом культуры, а пасля за поўнач вяртацца, а заўтра зноў араць, сеяць, глухнуць ад грукату матору.

...Заходзім з Эдуардам у прасторнае фае калгаснага клуба. І хаця яшчэ рана, праз прыадчыненыя дзверы з залы даносіцца песня. На сцэне рэпеціруе школьны хор — хлопчыкі і дзяўчынкі, змена падлескім спевакам.

**С. БАРАДОЎСКІ,**
**А. ШАБАЛІН.**

Ляхавіцкі раён.

# У ВІЦЕБСКУ НА АГЛЯДЗЕ

На абласным аглядзе цікавым быў рэпертуар народных тэатраў. «Трыбунал» А. Макаёнка паказаў Браслаўскі народны тэатр (рэжысёр В. Галкін), п'есу «Адкуль грэх?» А. Петрашкевіча — Пастаўскі народны тэатр (рэжысёр В. Шмякаў). «А зоры тут ціхія...» Б. Васільева — Багушэўскі народны тэатр (рэжысёр Р. Сарочкіна). Артысты-аматары палаца культуры Аршанскага льнокамбіната прывезлі на абласны агляд спектакль «Вогненны мост» Б. Рамашова (рэжысёр М. Бараш). Самы малады ў вобласці народны тэатр Талачынскага раённага дома культуры пазнаёміў з прэм'ерай па п'есе «Не ўсё кату масленіца» А. Астроўскага (рэжысёр А. Савін).

Драматычныя калектывы паказалі ў Віцебску сцэнічны жарт Я. Купалы «Прымакі» (палац культуры будаўнічага трэста № 9). «Дзівосы на калёсах» П. Данілава (Ляхаўшчынскі сельскі клуб Пастаўскага раёна). камедыю «Няроўны шлюб» В. Канстанцінава і Б. Рацэра (Глыбоцкі раённы дом культуры), «Жанаты жаніх» А. Кузняцова і Г. Штайна (Гарадоцкі раённы дом культуры). Тэме Вялікай Айчыннай вайны прысвяцілі свае спектаклі па п'есах В. Быкава «Рашэнне» і А. Макаёнка «Трыбунал» драматычныя калектывы Ушацкага РДК і дома культуры Аршанскага завода «Легмаш».

З разнастайнымі тэматычнымі праграмамі прыехалі на абласны агляд агітацыйна-мастацкія брыгады. «Кліча трэці рашаючы», «Калі брат і таварыш», «Сельскім працаўнікам прысвячаецца» — так назвалі свае праграмы калектывы Браслаўскага, Аршанскага і Пастаўскага раённых дамоў культуры.

Журы агляду на рэспубліканскі паказ вызначыла Браслаўскі народны тэатр і драматычны калектыў палаца культуры Віцебскага будаўнічага трэста № 9, агіттэатр палаца культуры Аршанскага ільнокамбіната і брыгаду Паватскага сельскага дома культуры Міёрскага раёна.

ансамблі. Цяпер рыхтую «Песню пра бацьку».

Свайго сябра падтрымлівае галоўны заатэхнік Васіль Ткачык:

—У калгасе шмат моладзі. Адных толькі камсамольцаў больш за сто. Многія жывёлаводы не толькі старанна працуюць, але і ўмеюць культурна адпачываць. Яны — здольныя спевакі, танцоры, музыканты.

А пра сябе Васіль сціпла змоўчвае. А ён не толькі здольны спецыяліст, але і добры спявак. На пасадзе заатэхніка працуе два гады. Прыехаў сюды пасля заканчэння заатэхнікума, рыхтуецца паступаць завочна ў інстытут. Яго работай праўленне калгаса задаволена.

— Нашы спецыялісты запявалы і ў вытворчых, і ў культурных справах, — умешваецца ў гаворку дырэктар дома культуры Аляксей Будкевіч. — Усе яны ўлюбёны ў сваю справу, вельмі захапляюцца самадзейнасцю.

Любіць сваю работу і Аляксей. Пасля заканчэння музычнага вучылішча яму прапанавалі пасаду педагога ў Іванаўскай музычнай школе. Лепшага месца, здаецца, і не шукаў. Аднойчы выпадкова сустрэўся са старшынёй калгаса «Чырвоная зорка» Васілём Несцеравічам, які расказаў пра культурнае жыццё хлебаробаў, пра тое, што ў калгасе ёсць дом культуры, але не хапае здольнага кіраўніка. Аляксей зразумеў намёк старшыні, і калі той прапанаваў яму пасаду дырэктара дома культуры, адразу згадзіўся.

У калгасе яму вылучылі двухпакаёвую прасторную кватэру. Ды і на работу Аляксей не скардзіцца. Толькі працуй, выкладвай свае здольнасці. Усе ўмовы для работы ёсць.

З сакратаром парткома Ануфрыем Цімафеевічам Катляром мы спаткаліся ў чытальнай зале сельскай бібліятэкі. Ён завітаў сюды, каб падрыхтавацца да чарговых заняткаў, якія праводзіць з паляводамі трэцяй брыгады па пытаннях эканомікі, разам з імі вывучае перадавы вопыт.

А таварыства «Веды» і агіткалектыў займаюцца сваімі справамі. У іх складзе здольныя людзі, якія прапагандуюць усё новае і перадавое, займаюцца агітацыйна-масавай работай з калгаснікамі. Здольным палітарганізатарам з'яўляецца завуч школы Вольга Талкачова, загадчык чырвонага кутка механізатараў настаўніца Ганна Кандрадчык, прапагандыст гуртка па вывучэнню гісторыі КПСС з камсамольцамі Яўген Талкачоў, прапагандыст гуртка па вывучэнню асноў філасофіі з камуністамі Мікалай Кухарчук і інш.

□

Прыгожая вёска Дастоева вечарам. Ярка гараць зоркі—ліхтары на прасторных вуліцах. А з дома культуры чуюцца галасы самадзейных артыстаў. Праца і песня ходзяць тут неразлучнымі сёстрамі.

**І. МАРКЕВІЧ.**

Іванаўскі раён.

# ГІСТОРЫЯ АДНАГО КАХАННЯ



Сцэна са спектакля.

П'еса Міхаіла Рошчына «Валянцін і Валянціна» пастаўлена ў многіх тэатрах і, як правіла, выклікае вялікую цікавасць у гледачоў. Праўда, часам на сцэне п'еса гучыць як сентыментальная гісторыя. Не тое ў народным тэатры Гродзенскага палаца культуры тэкстыльшчыкаў, дзе «Валянціна і Валянціну» паставіў рэжысёр А. Гільварг.

...Студэнты Валянцін і Валянціна горача пакахалі адзін аднаго і вырашылі пажаніцца. Але на шляху да іх шчасця паўстаюць перашкоды, як бытавыя, так і маральныя. Узнікае складаная драматычная сітуацыя. І толькі ў самым канцы спектакля, пасля цяжкіх выпрабаванняў, горкіх пакут Валянцін і Валянціна пачынаюць сумеснае жыццё.

У выкананні В. Германі Валянцін — разумны хлопец. Ён шчыры з прыяцелямі па інстытуту, клапатлівы і ўважлівы да маці, якая шмат перажыла, да малодшай сястрычкі. Праз увесь спектакль В. Германі ўсхвалявана праносіць першае пачуццё героя да Валянціны. Каб схадзіць з ёю ў кіно, дапамагчы маці, ён часта начамі разгружае вагоны і гэта выглядае для нас яшчэ і як школа працоўнай і маральнай загартаванасці характару. Усе пачуцці Валянціна самадзейны артыст выказвае стрымана, тактоўна. Гэта станоўчая якасць выканання. І ўсё ж дзе-ніդзе В. Германі не хапае тэмпераменту, а драматычны матэрыял для раскрыцця няўрымслівасці хлопца ў п'есе ёсць.

Вядома, што каханне аказвае вялікі ўплыў на фарміраванне характару чалавека. Аб гэтым сведчыць і лёс Валянціны, ролю якой іграе Л. Гардзейка. У першых карцінах яе гераіня летуценная дзяўчына. Яна таксама горача адказвае на пачуцці Валянціна, але звязаць жыццё са сціплым студэнтам ёй перашкаджаюць маці і бабуля. І яна нават паддаецца ўгаворам «асцярожных» сваякоў. Бывае, у змаганні за шчасце гераіня Л. Гардзейка выглядае амаль бязвольнай, паслухмяна падначальваецца маці. І толькі пасля перажыванняў, горкага роздуму, пасля споведзі старэйшай сястры Яўгеніі яна знаходзіць у сабе сілы, каб збегчы да каханага. Самадзейная артыстка пакідае добрае ўражанне. Яна праўдзівая і ў адказныя моманты паводзін Валянціны эмацыянальная. І толькі ў напружанай карціне са сваякамі выканаўца крыху пасіўна ўспрымае тое, што гаворыць Яўгенія. А гэта ж вельмі важна для Валянціны, бо садзейнічае яе прасвятленню, гераіня ідзе супраць мяшчанскіх забабонаў.

У спектаклі самыя разнастайныя характары сяброў Валянціны і Валянціна. Радуе гледача Л. Сялянская. Яе Яўгенія — слабавольная натура. Гэтую якасць выканаўца падкрэслівае тонкімі нюансамі нават у пластычным малюнку вобраза.

Калі Валянціна усё ж становіцца шчаслівым чалавекам, то зусім інакш складваецца жыццё Яўгеніі. Асабліва выразная Л. Сялянская ў заключным маналогу гераіні. У ім яна з душэўным болем, з гневам абрушваецца на тых людзей, якія не лічаць сур'ёзным першае каханне.

Удала выступіла ў спектаклі І. Клімава. Яе Лізавета — простая, душэўная жанчына. Яна хутчэй сэрцам, чым розумам, адчувае глыбіню кахання свайго сына Валянціна і ўсяляк стараецца дапамагчы маладым людзям у нялёгкай барацьбе за шчасце. Верыш кожнаму слову, кожнаму парыву, вуглаватаму руху гэтай жанчыны. У мінулых пастаноўках І. Клімава пераважна іграла гераічныя ролі, а тут выступае ў новым, бытавым плане.

Для правільнага псіхалагічнага гучання спектакля вялікае значэнне мае рэжысёрская трактоўка вобраза маці Валянціны. Яе можна паказваць рэзка адмоўным тыпажом. Але, на наш погляд, тады адбудзецца даволі буйны пралік, — паказ чалавека толькі адной чорнай фарбай. Гэтага шчасліва пазбегла С. Дупанава, якая выступала ў складанай ролі маці Валянціны. Яе гераіня, якая шмат перажыла на сваім вяку, рана засталася без мужа. Яна па-свойму любіць малодшую дачку, менавіта таму ўсімі дазволенымі і недазволенымі сродкамі імкнецца перашкодзіць Валянціне выйсці замуж за незабяспечанага студэнта. У лепшых эпізодах С. Дупанава натуральна жыве складаным жыццём гераіні.

У народным тэатры Гродзенскага палаца культуры тэкстыльшчыкаў мне давялося паглядзець амаль усе спектаклі. Апошняя прэм'ера найбольш узрадавала. Нават у маленькіх ролях няма адчувальных пралікаў. У гэтым, вядома, вялікая заслуга рэжысёра А. Гільварга і ўсяго пастаноўчага калектыву. Атрымаўся строгі і нават мужны спектакль.

Адначасова хочацца выказаць і некаторыя заўвагі. Цэласнаму ўспрыняццю пастаноўкі вельмі перашкаджае просталінейнае асвятленне сцэны. З прыкрасцю глядзіш на велізарны чорны цень на задніку, які па пятах праследуе героя, калі ён ідзе па падмостках. Даўно трэба было б дырэкцыі палаца культуры тэкстыльшчыкаў паставіць больш дасканалую апаратуру. Спектакль таксама прайграе і ад малавыразнага афармлення. А яно ж павінна хоць бы ў дэталях больш дакладна адлюстроўваць месца падзей.

Гэта—прыватнасці. Увогуле ж, прэм'ера захапляюча апавядае аб нашай моладзі і дае ўрок людзям старэйшага пакалення, заклікаючы больш уважліва і беражліва адносіцца да жыццесцвярджальнага пачуцця, якое мы называем — каханне.

**Ул. ДЗЁМІН,**
артыст Гродзенскага абласнога тэатра.

Яніс РЫЦАС

# «ЯНЫ ВЕДАЮЦЬ, ШТО ТАКОЕ БАРАЦЬБА...»

*Грэчаскі паэт Яніс Рыцас становіцца ўсё больш вядомы чытачам усяго свету. «Яго вершы-маланкі, што нясуць у сабе зарад глыбокай таямнічасці, драмы нявыказаных пачуццяў, сведчаць пра найтанчэйшыя і ў той жа час моцныя парыванні душы». Так пісаў пра паэзію Я. Рыцаса Ніколас Гільен.*

*У 1972 годзе на дзесятай міжнароднай Біенале паэзіі ў Бельгіі вершы Яніса Рыцаса былі адзначаны Вялікай прэміяй.*

*Прапануем увазе чытачоў вершы паэта са зборніка пад назвай «Макронісас». У іх Рыцас расказвае пра цяжкае жыццё палітычных ссыльных у канцлагеры на востраве Макронісас, дзе знаходзіўся і сам. Любоў да свабоды, пратэст і вера ў перамогу — галоўныя матывы гэтых вершаў.*

*Неўзабаве зборнік вершаў Яніса Рыцаса «Макронісас» выйдзе з друку ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». На беларускую пераклала А. Кобец-Філімонава.*



## НАШЫ ДЗЕЦІ

Гэтыя дзеці апранаюць на голае цела чабор,
ноччу ў іх чаравіках ястрабіхі нясуць яйкі.

У кожную нядзелю яны апранаюць два платаны — нагавіцы,
маленькае міндальнае дрэва — кашулю,
хустачка іхняя — мора, а кепка — вецер,
у вачах
гара,
рака,
пес.

Жалудамі зашпільваюць яны пінжакі свае,
сцізорыкамі разразаюць хлеб цішыні,
вячэраюць каменнем,
п'юць неба,
і ходзіць у іх душы
май і снежань поплеч.

У іх мускулістыя рукі,
пануры голас,
упартасць мула. Яны не згінаюцца,
гэтыя гордыя дзеці.

Яны ведаюць, што такое барацьба.
Яны ведаюць свой абавязак. Дзёрзкія,
ні на адзін валасок не адступаюць яны ад свайго абавязку.

Калі ўвечары ружавеюць палаткі,
калі за цішынёю чуцен
першы стрэл вячэрняй зоркі,
яны стаяць, шырока расставіўшы ногі,
упёршыся ў камень,
сціскаючы ў кішэнях кулакі,
і плятуцца на вячэрнюю паверку,
валакуць за сабой цень свой,
нібыта звязанага льва.

Пазней, калі ўгамоніцца вецер,
пасля вячэрняга пайка,
у час, калі залатыя рыбкі начы
слізгацяць паміж нагамі,
а зоркі блішчаць, як чаркі на эпірскай паліцы,
яны глядзяць на электрычныя агні Лаўрыёна,
уціскаюць вочы свае, быццам кулі,
у патранташ галактыкі,
і моўчкі ідуць да палатак сваіх.

Міхаліс спыніўся ля парога.
Ён кінуў позірк удалячынь і сказаў:
«Нашы там ваююць».
Мы маўчалі. Мы запалілі лямпу.

## КАРЭННЕ СВЕТУ

Некалькі апаленых чарацін пад пахай лета,
некалькі сцяблін шалфею,
чабор.

Нам вельмі хацелася піць.
Нам вельмі хацелася есці.
Нам было вельмі балюча.

Мы ніколі не верылі,
што людзі настолькі жорсткія.
Мы ніколі не верылі,
што нашы сэрцы такія цярплівыя.

Няголеныя,
з кавалкам смерці ў кішэні.
— Дзе ж ён, хоць адзін каласок пшанічны,
які сказаў бы нам «добры дзень»!

Нам вельмі, вельмі хацелася піць,
мы цэлы дзень цягалі каменне.
Пад нашай смагай—
карэнне свету.

## ПАДЗЕІ

Прыйшлі хваробы — слупняк, дызентэрыя.
Носім хворых на насілках у клазет,
валачом мёртвых на дошках на бераг мора.
Ледзь толькі спусціцца змрок,
іх грузяць у човен — да Лаўрыёна.
Ссыльныя знімаюць шапкі, сціскаюць зубы,
і глядзяць на мора,
маўчаць, глядзяць у далячынь, за Суніён,
аж пакуль не сцямнее і вецер не пачне рваць
коўдру мерцвяка.
Гэты бясконцы вецер, што б'ецца
аб маўчанне камянёў,
калючкі гойдае, ганяе па зямлі
паперкі з клазета,
за караблямі гоніцца, кішэні напаўняе
абломкамі краявідаў,
і скуру аддзяляе ад касцей —
гэта вялікі вецер,
раскоўвае ён ланцугі сузор'яў
і скоўвае нашы сэрцы.

Адзін ложак, другі—колькі ложкаў тут апусцела!
А відэльцы і лыжкі забітых звалены ў кут,
быццам прыгаршчы зорак без назвы.
І месяц шчарбаты галосіць,
галосіць уначы пра свае жахі мору,
то адкрыецца ён, то закрыецца ў цемры,
як дзверы старыя,

і клункі ночы ля кухні,
і смутак прыліпае да страху,
але не да нашых сэрцаў.

Потым вецер сціхае,
і чутна, як коціцца з гары каменне,
чуем стук чаравікаў мёртвых,
а воддаль крокі Свабоды,
што выходзіць са страшэннага пекла.



Малюнкі грэчаскага мастака Яніса Фарсакідзіса, які разам з Янісам Рыцасам знаходзіўся ў канцлагеры.

# КАЛАБОК ГАВОРЫЦЬ ПА—ПОЛЬСКУ

Дзяржаўны драматычны тэатр імя Аляксандра Вянгеркі ў Беластоку паставіў «Трыбунал» А. Макаёнка ў перакладзе на польскую мову Леха Піятроўскага. Прэм'ера «Трыбунала» адбылася ў лютым 1973 года. Сярод гледачоў былі сакратар пасольства СССР у Польшчы Р. Мчэлідзе, старшыня ваяводскага праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы, галоўны рэдактар «Газеты Беластоцкай» Марак Юрковіч, прадстаўнікі партыйных і дзяржаўных устаноў.

Гледачы вельмі цёпла прынялі спектакль.

У спектаклі адчуваецца вопытная рука рэжысёра Збігнева Бесерта. Асабліва пераканальна раскрыты на сцэне вобраз Цярэшкі Калабка, які стварыў артыст Вітальд Галондзка. Цярэшка Калабок у яго выкананні — па-мужыцку і хітры, і адважны, і ўпарты, і вясёлы. Часам ён выглядае нават сентыментальным. І ўсё гэта па-акцёрску апраўдана, ярка.

А Паўліна? У Андрэя Макаёнка яна — не такая і «простая» вясковая жанчына. Мар'я Хадэцкая іграе гэтую ролю натуральна і спакойна, без лішняга пафасу. Змястоўны, арыгінальны характар!

Іншыя акцёры таксама добра справіліся са сваімі заданнямі (напрыклад, Юліюш Пшыбыльскі ў ролі нямецкага каменданта, Крысціна Алясевіч у ролі маўклівай Галі). Праўда, на маю думку, акцёр Яцэк Даманскі мог бы больш пераканаўча прадэманстраваць глыбокі боль Цярэшкавага Валодзі ад уяўнага «прадажніцтва» бацькі, яго рашучасць уласнай крывёю змыць бацькоўскую ганьбу...

Увогуле «Трыбунал» пакідае незабыўнае ўражанне. Рэжысёр Збігнеў Бесерт і мастак Эльжбета Хояк зрабілі многае для таго, каб глыбей раскрыць арыгінальную па жанру і народную па духу п'есу. Спектакль стаў прыкметнай з'явай у тэатральным жыцці Беласточчыны.

**Віктар РУДЧЫК.**



На здымку — сцэна са спектакля «Трыбунал» у Беластоку. Фота С. ДУДКЕВІЧА.




## Сяргей Уладзіміравіч, смейцеся!

*Не многа і нямала Сяргею Уладзіміравічу Міхалкову набегла — шэсцьдзесят. Нарадзіўся ён маладой вясной 1913 года. А вясна ж—смяецца. Заўсёды смяўся і Сяргей Уладзіміравіч. Раскаты яго звычнага смеху грымелі над галовамі марнатраўцаў, падхалімаў, бюракратаў, невукаў. Вострым словам сатыры і гумару змагаўся ён супраць ворагаў у часы Вялікай Айчыннай вайны, дапамагаў ачышчацца ад грахоў, ад перажыткаў мінулага ў свядомасці некаторым людзям.*

*Пяро яго не іржавее і сёння. І лепшае пацвярджэнне гэтаму ўзнагарода — Зорка Героя Сацыялістычнай Працы.*

*Ёсць з каго — смейцеся, дарагі Сяргей Уладзіміравіч! І весела, і з'едліва, і пагардліва, і зычліва... Беларускія сатырыкі і гумарысты заўсёды рады вас падтрымаць. Будзем жа смяяцца разам — пражывём даўжэй і шчаслівей.*

**Сяргей МІХАЛКОЎ**

## ПЕГАС І ПАЭТ

**Наспеў жаданы час —**
**Паэт паклікаў вернага Пегаса.**
**Учуў той кліч Пегас**
**І прыскакаў з Парнаса.**
**«Мой добры конь,— сказаў яму Паэт,—**
**Ты служыш мне нямала зім і лет,**
**А ў творчасці маёй — хаця б які прасвет:**
**Я што ні напішу — абавязкова хаяць,**
**І песень не пяюць, і казак не чытаюць,**
**Скажы, у чым сакрэт!!»**
**«Даруй,— сказаў Пегас,— мне па душы палёт,**
**Люблю галоп за думкаю імклівай.**
**Вось Пушкін быў яздок непалахлівы,**
**Якая хуткасць з юных год!**
**А ты! Працуеш з халадком,**
**Крамзаеш вершыкі без ладу,**
**Садзішся на мяне наперад задам,**
**Па крузе трухаеш цішком.**
**Паехалі, ці што... Да новых даляглядаў».**

●

**Зноў вершыкі Паэт пячэ, нібы аладкі.**
**Не, бачу я,— ён не змяніў пасадкі.**

Пераклала Вера ВЯРБА.



Мал. Л. МУРАШКІ.

**Мікалай ШЫШКІН,**
**заслужаны артыст БССР**

# А вы не сустракалі Хаджу Насрыдзіна?

АДНОЙЧЫ, калі мы збіраліся паехаць на гастролі ў Ташкент, зайшоў да мяне — ведаеце, хто? Усімі паважаны, у беларускай світцы, з русай барадкай, хітраватым позіркам і вясёлай усмешкай... ну, вы, напэўна ужо здагадаліся — зайшоў да мяне Несцерка.

— Добры дзень, братачка Міколка Шышкін, каб ты здароў быў, толькі малако піў ды гора ніколі не ведаў. Дык вось, Міколка, чуў я, што адязджаеце вы ў сонечны ўзбекскі край. Адкуль чуў?.. Э-э-э, братачка, чуткі, яны паперадзе чалавека бягуць і цікавасць будзяць. А ў мяне ў Ташкенце ёсць добры сябар — Хаджа Насрыдзін. Буду прасіць, каб ты яго знайшоў і ад мяне перадаў шчырае прывітанне. Каб мой сябар Хаджа Насрыдзін заўсёды быў вясёлы, як сват на вяселлі, здаровы, як вада, багаты, як зямля. Каб усе нашы добрыя сябры ўзбекі доўгія гады жылі і здаровы былі, і пра нас не забывалі.

Даў я слова Несцерку выканаць яго просьбу, хоць добра ведаў, што Хаджа Насрыдзін чалавек непаседлівы і знайсці яго будзе не так лёгка.

На самалёце нашага Аэрафлота хутчэй за птушак прыляцелі мы ў Ташкент.

«Ну, што ж, — падумаў я, — давай пашукаем Хаджу Насрыдзіна з першых жа крокаў на ўзбекскай зямлі».

Падыходжу да даведачнага бюро аэрапорта, бачу — сядзіць у акенцы прыгожая дзяўчына.

— Добры дзень, — кажу я. — Салям алейкум!..

— Алейкум салям.

— Даруйце, калі ласка, чароўная гюлістан, ці не падкажаце вы мне, дзе можна знайсці Хаджу Насрыдзіна?

— О-о, дарагі госць, — усміхнулася гюлістан, — я ведаю Хаджу Насрыдзіна. Вялікі ён жартаўнік! Але мой сусед толькі што сказаў мне, што ў нашага шаноўнага Насрыдзіна здарылася няшчасце. Згубіў ён у сваім доме пярсцёнак. Шукаў-шукаў і не знайшоў. Тады пачаў шукаць каля парога суседавай хаты. Сусед убачыў і пытае: «Што ты тут, Хаджа, шукаеш?» «Ды вось, згубіў пярсцёнак у сваёй хаце». «Дык чаму ты шукаеш яго каля майго парога?» «У мяне дома цёмна, таму шукаю тут», — адказаў Хаджа Насрыдзін.

І — шукае сабе...

Так што, паважаны госць, ідзіце на Чаланзар да майго суседа, ён вам дапаможа знайсці Хаджу. Не знойдзеце суседа, спытайце ў любога сустрэчнага...

Падзякаваў я чароўную гюлістан і пайшоў на Чаланзар. Раён гэты я ведаў. Там ёсць дамы, узведзеныя беларускімі будаўнікамі. Падыходжу. На лавачцы, каля квітнеючых руж, сядзіць дзядок ва ўсходнім халаце і каляровай цюбецейцы і калыша ў калясцы дзіця. Я — да яго.

— Салям, — кажу.

— Салям!.. Салям!..

— Ці не падкажаце вы мне, паважаны чалавек, дзе знайсці Хаджу Насрыдзіна?

— О-о-о, — усміхнуўся дзядок, — вы шукаеце нашага Хаджу? Слухайце, што я вам раскажу. Спыталі ў Хаджы: «Чаму гэта, калі надыходзіць раніца, адзін чалавек ідзе ў адзін бок, а іншы — у іншы». «Калі б усе кінуліся ў адзін бок, — растлумачыў Хаджа, — у свеце парушылася б раўнавага, і зямля наша перакулілася б». Дык, бачыце. Хаджу я ведаю і шчыра вам скажу, на Чаланзары ён не жыве. Але я падкажу, дзе вы яго можаце знайсці. Каля гасцініцы «Фустлік» ёсць новае кафэ. Там для Насрыдзіна гатуюць самы смачны лачман.

Знайшоў я гэтае кафэ. Увайшоў, агледзеўся. Утульна. Радыё гаворыць, на століку—газеты, часопісы. За буфетам — чарнявы хлопец-узбек. Я — да яго.

— Салям...

— Добры дзень... Салям... — Буфетчык адразу да мяне.—Што вам— лачман, шурпу, шашлык?

— Дзякую. У мяне да вас пытанне. Мне сказалі, што ў вашым кафэ бывае Хаджа Насрыдзін.

— Вах-вах, дарагі... Гэта такі чалавек, кожнае слова якога варта ўвагі... Аднойчы Насрыдзіну знаёмы селянін прынёс зайца. Праз тыдзень прыходзіць гэты селянін і гаворыць: «Я на тым тыдні прынёс табе зайца». Хаджа запрасіў яго ў хату і пачаставаў заечым супам. Праз тыдзень прыйшло да Насрыдзіна многа людзей. —«Мы,—гавораць, — суседзі таго чалавека, які два тыдні назад прынёс табе зайца», «Заходзьце, калі ласка, сядайце»,— сказаў Хаджа і паставіў перад імі вялікую піялу з вадой. «Хаджа, гэта ж вада...» — здзівілся тыя. «Правільна, гэта вада ад вады, у якой гатаваўся заечы суп». Так што, паважаны госць, Хаджу я ведаю, але большасць часу ён праводзіць не ў кафэ, а на калгасным базары. А базар — насупраць.

Падзякаваў я гасціннаму буфетчыку і пайшоў на базар. Ведаеце, паважаныя таварышы, калгасны базар у Ташкенце — гэта нешта неверагоднае. Рознакаляровы, шумны, шматмоўны, багаты на ўсе дары ўзбекскай зямлі. Тут табе і вінаград, і смачныя дыні, і сакавітыя кавуны, і гранаты, і персікі, і памідоры, і белая цыбуля, і часнок, і курага. Усё гэта раскладзена на прылаўках, на саломе, проста на зямлі. І сярод багацця ўзбекскай зямлі — наша беларуская бульба. Пайшоў я ўздоўж раду, дзе прадавалі вінаград — і белы, і чорны, і з костачкамі, і без костачак. Каля аднаго ўзбека вісела гронка вагой каля пуда. Падышоў да яго.

— Добры дзень...

— Салям, дарагі, салям! Калі ласка, самы смачны, самы лепшы андзіжанскі вінаград.

— Дзякую, — кажу, — вінаграду я ў вас куплю. А вось ці не сустракалі вы тут, на базары, Хаджу Насрыдзіна?

—Хаджа Насрыдзін, — усплясну ў у далоні ўзбек, —вінаград у мяне купляў! Падыходзіць да яго нейкі чалавек і пытае: «Хаджа, які сёння дзень?» «Я прыйшоў на гэты базар вельмі рана і яшчэ не паспеў вывучыць тутэйшыя дні. Спытай у таго, хто прадае курагу». А то яшчэ. Купіў аднойчы Хаджа на базары за рубель дзевяць яек. А ў іншым месцы прадаў за тую ж цану цэлы дзесятак. Спыталі яго: «Хаджа, чаму ты гандлюеш са стратамі для сябе?» «А хіба не ўсё роўна, — адказаў Хаджа, — ці з прыбыткам ці са стратамі? Абы сябры ведалі, што я гандаль вяду». Я магу расказаць яшчэ шмат гісторый пра Хаджу Насрыдзіна. І ведаеце, дзе ён жыве? Сярод усіх нас, узбекскіх людзей...

— Ну, што ж, дзякую, — адказаў я. — Вельмі прашу вас, калі спаткаеце Хаджу Насрыдзіна, перадайце яму братэрскае сардэчнае прывітанне ад нашага беларускага Несцеркі.

Так і не сустрэў я асабіста Хаджу Насрыдзіна. Але яго ведаў кожны ўзбек, і я зразумеў, што Хаджа Насрыдзін жыве ў сэрцы народа, у самым вясёлым яго куточку.

**Анатоль ПАТАМКОЎСКІ**

# ДОЛЯ МАСТАКА

Неяк з паэтам Кашонам пайшлі мы на імяніны да Паташонскіх. Настрой быў ужо даволі прыемны, калі да нас падсела адна пані.

— Якой вы думкі пра «Ружу ў ранніх прыцемках» Расланака?—спытала яна, адсоўваючы ад нас паштэт з дзічыны.— Па-мойму, Расланак — экстрэміст. Канцыляцыйныя акцэнты маюць у яго камуфляжны характар.

— Магчыма,— згадзіўся Кашон. — Ці магу я папрасіць паштэт?

Пані пільна ўгледзелася ў нас.

— Расланак, пэўна, ваш прыяцель,— сказала яна, адсоўваючы салат з маянэзам.— Прашу не трактаваць таго, што я сказала, як дыфамацыю. Я проста не была дастаткова адэкватнай.

— Не, чаму ж,— буркнуў паэт Кашон.

Ён працягнуў руку да заліўной ножкі, але пані была спрытнейшая.

— Дыменсія якасці маральных пастаў з'яўляецца нечым суплетыўным,— заявіла яна, адсоўваючы салатніцу,— і нават дэградуе асобу аўтара.

— Віп'ем па чарачцы,— прапанаваў паэт Кашон.

Пані прапусціла яго словы міма вушэй.

— У этычнай плоскасці я лічу за лепшае падыходзіць да мастака cum grano salis. Тэкстуальнасць для мяне — рэч індыферэнтная. Ніхто не змусіць мяне да пейаратыўнасці.

— Хто вас да чаго прымушае? — абурыўся паэт Кашон.

— Перцэпцыя паэтыкі,—працягвала пані, адсоўваючы свіную грудзінку,— абумоўлена эмацыянальнай кульмінацыяй...

— Прабачце, я нешта ўспомніў,— сказаў паэт Кашон і кінуўся ў туалет. Я — за ім. Праз акно мы выбраліся на балкон, потым па водасцёкавай трубе спусціліся на вуліцу.

Назаўтра мы спаткалі Паташонскага ў кафэ «Какос».

— Што гэта была за вар'ятка? — спытаў паэт Кашон.

— Адна знаёмая,— адказаў Паташонскі.— Увогуле, вельмі прыемная ў кампаніі асоба. Расказала нам добры анекдот. І выпіць не адмовіцца.

— Што на яе ўчора найшло? — здзівіўся паэт Кашон.

— Хацела зрабіць добрае ўражанне,— высветліў Паташонскі. —Не кожны дзень сустрэнеш паэта на імянінах.

Пераклаў з польскай А. МАЖЭЙКА.


Па тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах на шаснаццаці старонках.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.







Індэкс 63856 АТ 06607.